PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 39 (1950) ГОД XXXVIII БЕЛАСТОК 26 ВЕРАСНЯ 1993 г. ЦАНА 3000 зл.

ЮЛІЯ АЛЕСЬНІНА

## ВОСЕНЬСКІ НАСТРОЙ

*(Імпрэсія)*

Альжбета гэтую восень чамусьці любіла. Чаму? Яна і сама не ведала. Толькі адчувала. Звычайна з набліжэннем першых смужлівых, пахмурных дзён ёй здавалася, што разам з зялёнай прыродай, з летам памірае яна сама. Але на гэты раз усё было інакш: невясёлае, змрочнае неба, холад, які яшчэ не ўвабраўся ў сілу, але крадма, як злодзей, прабіраецца пад апратку і хапае цяпло, няшчырае і туснае сонца, што часам праблісквае праз цьмяную заслону хмар, не раздражнялі яе, падабаліся і стварылі нейкі новы настрой.

Вось ідзе яна праз кляновы скверык уздоўж аздобленай балясамі металічнай агароджы. Раптоўная ясная думка запаланіла ўвесь унутраны свет: для цяперашняй гарадской восені вызначальна тое, што сёлета ніхто не зграбаў апалае лісце і не паліў яго, і яно цэлымі стосамі валялася па тратуарах, абапал маставых, шамацела пад нагамі. Альжбета падумала: "Гэтае таксама характарызуе наш час, перамены (добрыя ці горшыя? -- хутчэй горшыя) ў грамадстве. Усе кінуліся хто на пошукі прадуктаў, хто ў палітыку і пустое базіканне, а хто, імкнучыся забыцца, адарвацца ад сучаснасці, уцёгся, паглыбіўся ў свой свет, выдуманы, дзейны і несапраўдны, як у прыгодніцкіх кнігах. І таму нікому няма справы да паміраючага лісця". Яна ішла па гэтым лісці, упершыню за некалькі месяцаў азіралася па баках, і ёй было добра. Апаноўваў урачысты, узнёслы настрой, душа рвалася да вышынь. Скверык зусім малы, але дзяўчына спецыяльна канепала, не спяшалася, каб падоўжыць свой стан, задаволіць сваё жаданне сувязі з дрэвамі, што зараз прынялі яе пад сваю ахову, з сусветам, уплыў якога яна цяпер выразна адчувала.

Знячэўку з'явілася новае пачуццё: раптам захацелася памерці, вось зараз, так, адразу, тут, разам з кляновым лісцем. Альжбета спынілася, не ведаючы, анічога не разумеючы, але ўсёй існасцю ўслухоўваючыся ў прастору і ў сябе.

☞ Працяг на стар. 7



*Прырода каментуе нашыя выбарчыя змаганні.*
**Фота Міраслава Пякарскага**

## НЕПАЗБЕЖНАЯ З'ЯВА

Такі цяпер час настаў, што ўсе навокал страшэнна сварацца. Спрачаюцца і на міжнародных форумах, і ва ўсіх закутках свету. Сварацца і ў нашай краіне, што вельмі каларытна выявілася перад апошнімі парламенцкімі выбарамі. Сварлівасць не чужая і нашаму беларускаму асяроддзю, а бацьла сваркі гадамі точыць нашыя эліты.

Многія з нас з сантыментамі ўспамінаюць той нядаўні свет без сварак: рэальны сацыялізм. Тады ўсіх абавязвала еднасць. У партыі ўсялякія фракцыі былі строга забаронены. Тэарэтычна можна было дыскутаваць аб усім на ўнутрыпартыйных форумах, абы толькі вонкі прытрымоўвацца адной слушнай лініі. На практыцы, аднак, кожнае рознагалоссе лічылася падазроным, а ўсе сумненні ставаліся „ўхіламі", з якімі спраўляліся вельмі хутка.

Сённяшняя дэмакратыя прынесла свабоду слова і выказвання думак з усімі яе паслядоўнасцямі. Сваркі і спрэчкі — гэта свайго роду знак часу. Але самае сумнае, што ніхто ўжо не хоча ні слухаць свайго праціўніка, ні знаёміцца з ягонымі поглядамі і аргументамі. Дайшло нават да таго, што ўжо на само гучанне прозвішча апанента яго „партнёр" па сварцы рэагуе нервова і спантанна дэманструе сваю антыпатыю. Такі чалавек ужо загадзя ведае, што супрацоўніцтва з апанентам немагчымае, ён пераканаваны ў тым, што ў апанента злыя намеры і адначасна свядомы таго, што яго таксама ў такіх нядобрых намерах абвінавачваюць.

Паўсюдная сварлівасць спадарожнічае таксама і нашай грамадска-палітычнай дзейнасці. Калі разглядаць сварлівасць як сацыялагічную з'яву, дык можна вызначыць яе станоўчыя і адмоўныя бакі. Станоўчае ў ёй тое, што пасвараныя людзі больш востра бачаць праблемы, могуць хутчэй заўважыць заганы ў іншых. Наогул спрэчкі — гэта цікавая справа, якая загадкае ўяўленне. Але адмоўных бакоў у сварлівасці, відаць, больш, чым станоўчых. Да іх трэба залічыць тое, што сваркі чыняць немагчымым супрацоўніцтва, паралізуюць яго. У крайніх выпадках даводзіць яна да распаду груп людзей, аб'яднаных нейкай ідэяй, і тады тое, што мелі яны зрабіць разам, не будзе здзейснена. У выніку замест нейкага плёну астаецца антыпатыя, усялякага роду плёткі, у значнай ступені несправядлівыя.

Удзельнікам публічных спрэчак, на жаль, не хапае свайго роду імунітэту супраць бацылы сваркі. Калі нехта сустракаецца з іншым меркаваннем або дзейнасцю, якая яму не па душы, нават не разгледзеўшы рацыяў апанента, прынцыпова іх адкідае, выліваючы пры нагодзе вёдры непераборлівых эпітэтаў.

З усяго гэтага, на маю думку, можна зрабіць адзін вывад: сваркі — з'ява непазбежная і можа яна быць патрэбнай, хаця часта бывае небяспечнай. Відаць уся справа заключаецца ў тым, каб навучыцца нам як найхутчэй жыць у атмасферы сварак і спрэчак, карыстацца іх станоўчымі бакамі, а пазбягаць адмоўных, пакідаючы іх на абочыне грамадска-палітычнага жыцця.

**В. ЛУБА**

## ЯК Я СТАЎ ЯЗЫЧНІКАМ

Школьнікі пасля канікулаў звычайна апісваюць на ўроках свае прыгоды. Я, праўду кажучы, даўно ўжо развітаўся са школьнай партай, але, вось, і мне захацелася апісаць сваю летнюю прыгоду. Прачытайце!

Здарылася так, што я сёлета на адну ноч стаў... ядвягам-язычнікам. „Што ён пляце!" — скажа нехта. Не, я не пляту, я, проста, здымаўся ў кіно. Дакладней кажучы, быў статыстам у фільме, які зараз робіць у Белавежскай пушчы Баженa і Ян Валенцікі (пра сам фільм пісаў я ў „Ніве" н-р 28 ад 11 ліпеня г.г.).

Выступаць перад кінакамерай давялося мне ўжо два разы (першы раз — у часткі „Уцёкі „Караля" французскага тэлесерыяла „Акцыя ОПЭН", другі — у тэлеперадачы Багдана Чарноцкага аб белавежцах). Так што нейкі фільмовы вопыт у мяне ўжо ёсць, але гэтак незабыўных уражанняў, прызнаюся, я дагэтуль не меў.

Фільм Валенцікаў — прысвечаны галоўным чынам прыродзе і рассакрэчванню яе тайнаў. Але ёсць у ім і фабулярныя ўстаўкі, дзеля якіх рэжысёру спатрэбіліся статысты. Прапанову выступіць у гэтай ролі я пачуў упершыню ад рэжысёра, калі браў у яго інфармацыю пра фільм для „Нівы". Папраўдзе, я не палічыў яе сур'ёзнай. Але праз два месяцы Ян Валенцік з'явіўся ў мяне ўжо з канкрэтнай прапановай. Я крыху вагаўся, але канчаткова згадзіўся.

І, вось, 4 жніўня г. г. падвечар, у Паляўнічым доме — фільмовай базе Валенцікаў, з'явілася адзінаццаць статыстаў. Раней, удзень, здымачную групу папоўнілі грыміроўшчыца і гардэробшчыца, якія спецыяльна прыехалі сюды з Варшавы.

Я пайшоў на „першы агонь". Распрануўся да самых трусоў. Неўзабаве на мне пачала паяўляцца вопратка... ваяўніка. Гардэробшчыца сшывала кавалкі скуры — хіба авечай, толькі пафарбаванай — і ўкладвала іх на мяне. Каб скура не „кусала" цела, я раней апрануў кашулю. На ногі ўцягнуў нейкія порткі, што напаміналі ні то кальсоны, ні то рэйтузы. Аднак, найбольш спадабаліся мне боты са скуры — лёгкія, спраўныя. На галаву надзелі мне скураны шышак. Гардэробшчыца агледзела мяне з усіх бакоў і адправіла да грыміроўшчыцы. Тут ужо ўсё пайшло спраўней. Памазаны крэмамі і пудрамі, я вярнуўся ў прыёмную, дзе прывітаў мяне рогат тых, якія чакалі ў чарзе да гардэробшчыцы. „Ну, пачакайце, праз нейкі час і я з вас пасмяюся", — падумаў я. І фактычна, неўзабаве з гар-

☞ Працяг на стар. 8



*Чакаючы здымкаў сядзяць (злева): Пятро Байко, Міраслаў Вашкевіч, Лех Навацкі і Станіслаў Куявяк.*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Тэлебачанне і радыё, Белінфарм, значная частка перыядычных выданняў апынуліся ў фінансавай залежнасці ад Савета Міністраў і не могуць супрацьстаяць ідэалагічнай цэнзуры, аб'ектыўна адлюстроўваць дзеянні ўрада. Манапалізацыя шэрагу газет і часопісаў, падпарадкаванне выдавецтва „Беларускі Дом друку" Гаспадарчаму ўпраўленню Савета Міністраў, звальненні і цкаванне прагрэсіўных журналістаў, спыненне вяшчання незалежных тэлекампаній, адмова ў прадстаўленні дэпутацкай апазіцыі законнага права на пастаянны эфірны час — гэтыя і многія іншыя прыклады характарызуюць інфармацыйную палітыку ўрада як супярэчлівую прынцыпам свабоды слова. (...)*

*Працэс замацавання таталітарных традыцый адбываецца з маўклівай згоды міністра інфармацыі А. Бутэвіча.*

*(Народная газета, н-р 172, Заява апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце)*

* * *

*Беларусы тысячу гадоў існавалі на гэтай зямлі поруч з самымі рознымі нацыямі, у тым ліку і з расійцамі, і гісторыя не засведчыла колькі-небудзь сур'ёзных унутраных канфліктаў паміж імі. Беларусы валодаюць добра засвоеным імунітэтам супраць нацыянальнай варожасці, этнічнай ксенафобіі; памяркоўнасць і цярплівасць у іх крыві (часам нават залішняя цярпімасць). Ці не таму і дагэтуль у нас „усё ціха" паміж народамі? І гэта пры тым, што адпаведныя сілы робяць перманентныя захады, каб падзяліць і нацкаваць адных на другіх. Класавы прынцып ужо не спрацоўвае, дык трэба іншы. Ужо выкарысталі „польскую карту", „летувіскую" таксама (згадваюцца прэтэнзіі старога Вярхоўнага Савета на Віленскі край). Здаецца, ужо бяздарна адпрацаваны і „карта Полісся", і Славянский собор (...).*

*(Народная газета, н-р 171, Васіль Быкаў)*

* * *

*БОЙКА Ў ЦАРКВЕ*

*Манахі-юсмаліяне, браты і сёстры так званага Вялікага Белага Брацтва, зрабілі спробу сарваць абрад хрышчэння ў Брэсцкай царкве евангелісцкіх хрысціян-баптыстаў. Манашка-юсмаліянка падчас абраду прарвалася да мікрафона і хацела перашкодзіць ходу рытуалу. Аднак гэта ёй не ўдалося. Калі яе пазбавілі слова, яна пракляла ўсіх прысутных. Відавочцы расказваюць, што манахі-юсмаліяне выхапілі з рук хрысціян-баптыстаў Біблію і спрабавалі прымяняць сілу. Атрад міліцыі, які быў запрошаны на хрышчэнне, не ўмешваўся.*

*(Чырвоная Змена, н-р 82)*

* * *

*„Solidarność" przejmując władzę uznała, iż nasycenie wolnością i demokracją skłoni społeczeństwo do wszelkich wyrzeczeń. Ofiarność rodzi się z zaufania. Poświęcenie musi mieć swój sens. Tymczasem budowę kapitalizmu rozpoczęto równie odgórnie jak socjalizmu po wojnie. Ideologię ówczesnego systemu zastąpiła uproszczona, rzekomo ponadczasowa doktryna liberalno-monetarystyczna. Na dodatek w sposób często amatorski próbowano przenosić i stosować liczne kategorie ekonomiczne i społeczne z dojrzałej zachodniej gospodarki rynkowej, do kształtującego się dopiero systemu rynkowego. (...) Nie brakło arogancji i swoistego bolszewizmu w traktowaniu społeczeństwa.*

*(Polityka, nr 36, Józef Oleksy)*

* * *

*Skarży się na nich prorektor ds. studentów lubelskiego UMCS, skarży się kierowniczka akademika, żali się dyrektor Centrum Języka i Kultury Polskiej dla Polonii i Cudzoziemców UMCS, że się nie uczą, nie chodzą nawet na zajęcia, że brudni, niechlujni, i że nasi studenci nie chcą z nimi mieszkać w pokojach, że handel wódką, przypadki prostytucji i powiązania z grupami przestępczymi. Oczywiście nie wszyscy, ale... Nie tak miało być.*

*W Ministerstwie Edukacji Narodowej mówi się natomiast o polityce „otwarcia" wobec Polonii z b. ZSRR, i o tym jak istotnym jego elementem jest zwiększenie limitów miejsc na studiach dla młodzieży polskiej ze Wschodu. Celem tej polityki jest „odtwarzanie" inteligencji w środowiskach polonijnych b. ZSRR. (...)*

*W ankiecie przeprowadzonej przez prof. Mazura na pytanie „dlaczego Pan(i) zdecydował(a) się na podjęcie studiów w Polsce" na 81 badanych tylko 4 osoby napisały — „bo jestem Polakiem/Polką i chcę nim być — ponieważ Polska jest moją ojczyzną". 11 otwarcie przyznało — by poprawić swoją sytuację materialną. Każdy z nich miesięcznie dostaje półtora miliona kieszonkowego. Skarżą się, że to mało.*

*(Polityka, nr 36)*

## З мінулага тыдня

**Апошні расейскі салдат пакінуў ужо Польшчу.** Чатыры апошнія вагоны з расейскімі салдатамі выехалі з Легніцы раніцай 18 верасня. „Упершыню ад многіх гадоў на польскай зямлі не будзе ніводнага чужога салдата. Здзейсніцца тое, аб чым марылі палякі многіх пакаленняў" — сказаў генерал **Здзіслаў Астроўскі**, упаўнаважаны ўрада па справах прабывання расейскіх войск падчас урачыстага развітання з салдатамі Расейскай Федэрацыі ў Легніцы.

**Міністр абароны Расеі Павел Грачоў** адтэрмінаваў планаваны на 16-18 верасня г.г. візіт у Польшчу з прычыны кепскага стану здароўя.

**У ваенных вышэйшых вайсковых установах на Усходзе вучыцца зараз дзесяць афіцэраў Войска Польскага.** Польскія афіцэры штудзіруюць у Акадэміі Генеральнага штаба Узброеных Сіл у Маскве, у Ваеннай авіяцыйнай акадэміі ў Моніна (Расея) і ў ваенных ВНУ у Будапешце і Брне. У гэтым навучальным годзе на навуку ў Расею будзе напраўленых чарговых пяць афіцэраў. Плануецца вучоба афіцэраў ВП у вайсковых установах Беларусі і Украіны.

**Польскае грамадзянства** атрымалі ў гэтым годзе 549 чужаземцаў (у перыядзе 1.01—15.07). Павялічваецца колькасць пражываючых у Польшчы іншаземцаў, якія стараюцца аб польскае грамадзянства. Большасць з іх — гэта грамадзяне былога СССР. Прычынай змены грамадзянства найчасцей бывае шлюб з полькай або палякам, а таксама вяртанне на бацькаўшчыну. Найбольш іх пражывае ў Гданьскім, Шчэцінскім, Зялёнагурскім, Беластоцкім і Валбжыхскім ваяводствах.

**У горадзе Тжэбятове** (Шчэцінскае ваяводства) адбыліся цэнтральныя рэлігійна-патрыятычныя ўрачыстасці, прысвечаныя **60 гадавіне вялікага голаду на Украіне.** Арганізатарамі мерапрыемства былі дзеячы Аб'яднання ўкраінцаў у Польшчы.

У Беластоку пабывала з афіцыйным візітам **дэлегацыя Менскага гарадскога савета.** Дэлегацыя з 34 дэпутатаў, якую ўзначальваў віцэ-мэр Менска **Анатоль Гурыновіч,** знаёмілася з польскай мадэллю дэмакратыі на самаўрадавым узроўні, сустракалася з уладамі горада, членамі Гарадской рады і яе камісій. Менскія дэпутаты наведалі таксама **Сяргея Мартынюка** — шэфа фімы „Пронар" з Нарвы, якая ўжо некалькі гадоў супрацоўнічае з Беларуссю.

**Прыватную балетна-мастацкую школу ў Беластоку** адкрывае харэограф **Барыс Жэшка.** Праграма прадугледжвае заняткі па балету, музыцы і выяўленчаму мастацтву. Школа будзе падрыхтоўваць дзяцей ва ўзросце 6—16 гадоў да мастацкіх школ. Працаваць у ёй будзе, між іншым, **Янка Крупа,** саліст колішняй „Лявоніхі". Заняткі будуць праводзіцца ў будынку БГКТ на вул. Варшаўскай 11, тэл. 435-118. Першы сход вучняў і бацькоў — 24 верасня г.г. а 17 гадзіне.

**Кляшчэлі** хадайнічаюць перад Радай Міністраў аб вяртанні ім гарадскіх правоў. Афіцыйная просьба была перададзена Беластоцкаму ваяводу два гады таму. „Дайшлі да нас неафіцыйныя абяцанні з Управы Рады Міністраў, што прэм'ер Сухоцка яшчэ перад выбарамі падпіша адпаведнае распараджэнне" — сказаў войт Кляшчэлеўскай гміны **Аляксандр Сяліцкі.**

**У карны аддзел Раённага суда ў Бельску-Падляшскім** паступіў абвінаваўчы акт супраць былому бурмістру горада Гайнаўка **Мечыславу Гмітэру,** кіраўніку па справах абслугі асветна-выхаваўчых устаноў у Гарадской управе і двум членам Управы горада, у якім ставіцца ім закід, што ў жніўні 1992 г. узялі неналежныя ім 39.150.000 зл. у такі спосаб, што прад'явілі гарадской касе сфальшаваны рахунак за начлегі ў шведскім гатэлі на суму 15.000 крон, калі ў сапраўднасці за начлегі падчас службовай пабыўкі ў Швецыі яны не плацілі.

**Раённы пракурор у Гайнаўцы** часова арыштаваў пяць удзельнікаў атакі на будынак паліцыі ў гэтым горадзе. Усе арыштаваныя — гэта маладыя жыхары Гайнаўкі ва ўзросце 17—21 гадоў, беспрацоўныя, прыцягваемыя ўжо да крымінальнай адказнасці за розныя злачынствы. Камендант мясцовай паліцыі звярнуўся да бурмістра горада з прапановай пазбавіць канцэсіі ўласніка дыскатэкі „Пад дубам", пры якой пачалася хуліганская авантура *(пра якую пішам на стар. 3)*.

**Кандыдат КПН у Сейм Януш Смачны** падаў у суд уласніка газеты "Gazeta Tygodniowa" Владзімежа Цімашэвіча і яе галоўнага рэдактара Анатоля Вакулюка за тое, што ў згаданай газеце ў памфлеце "Тутэйшыя" абсмяялі ягоную асобу. Ісцец патрабуе ў адказчыкаў змясціць перапросіны ў мясцовых газетах, у тым ліку і ў "Ніве", заплаціць яму грашовую кампенсацыю і ўнесці грошы на шпіталь ПСК.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"


- Дзе застрахаваць самаход?
- Абкрадаюць нават нябожчыкаў.
- Віленскія імпрэсіі Мацея Канапацкага.
- Пра школы ў Саках і Дашах.


# ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

### КАЛІ СВЯТЫ СВЯТКУЮЦЦА, ЗНАЧЫЦЬ, НАРОД МАЕ Ў ІХ ПАТРЭБУ

Свята Беларускай вайсковай славы ўсё ж адбылося.

Нягледзячы на тое, што сёлета, як і летась, вакол гэтай акцыі ўзняўся палітычны вэрхал, 8 верасня БНФ і Беларускае згуртаванне вайскоўцаў наладзілі святкаванне гадавіны перамогі Вялікага княства Літоўскага над дружынай Маскоўскага княства пад Оршай у 1514 годзе.

Зразумела, што не падзеямі сівой даўніны, а сучасным палітычным становішчам у Беларусі былі выкліканы і заява ўрада рэспублікі аб рашучым адмежаванні „ад антырускіх і антырасійскіх лозунгаў, пад якімі спрабуюць адзначыць 8 верасня яго арганізатары", і заклік так званага Народнага руху Беларусі не „выпрабоўваць цярпенне свайго народа палітычнай недальнабачнасцю і авантурызмам", і характарыстыка гэтай падзеі як антыславянскга шабашу. Але насуперак перасцярогам і абвінавачванням, правакацыйных заклікаў і антырускіх лозунгаў не гучала. Перад удзельнікамі свята выступілі лідэр Беларускага народнага фронту „Адраджэнне" Зянон Пазьняк, гісторыкі Валянцін Голубеў і Павел Лойка, старшыня Беларускага згуртавання вайскоўцаў Мікалай Статкевіч, знакамітыя фальклорныя калектывы, рок-гурты, маладыя паэты. Некалькі дзесяткаў маладых людзей прынялі вайсковую прысягу на вернасць Бацькаўшчыне.

### НАМ ВЕРНЕЦЦА СПАДЧЫНА

9,5 тысяч адзінак гістарычных каштоўнасцей вернуты на гістарычную радзіму (у Навагрудскі краязнаўчы музей) Інстытутам гісторыі матэрыяльнай культуры Акадэміі навук Расеі.

У бліжэйшых планах Камісіі па вяртанню гістарычных каштоўнасцей і Міністэрства культуры рэспублікі — перагаворы аб вяртанні Святых мошчаў, знойдзеных ля Сафійскага сабора ў Полацку і вывезеных у Санкт-Пецярбург. Падобныя пагадненні падпісаны з Польшчай, Германіяй, Літвой, краінамі СНД.

### „УРА!" КРЫЧАЦЬ ПАКУЛЬ ПАЧАКАЕМ

Спадзяванні на доўгае жыццё беларускага „зайца" ў якасці, няхай сабе не зусім паўнацэннай, але ўсё ж такі нацыянальнай валюты, аказаліся марнымі.

Пасля непрацяглага (як спадзяюцца кіраўнікі шасці рэспублік былога Саюза, якія на мінулым тыдні падпісалі пагадненне аб аднаўленні адзінай рублёвай прасторы) пераходнага перыяду ён саступіць пачэснае месца адзінай на тэрыторыі гэтых дзяржаў валюце — расейскаму рублю.

Старшыня праўлення Нацыянальнага банка Беларусі Станіслаў Багданкевіч станоўча ацэньвае факт стварэння адзінай эканамічнай прасторы, якая, па яго меркаванню, безумоўна, дапаможа рэфармаванню беларускай эканомікі. А вось прадстаўнік Сусветнага банка Бейзіл Кавальскі, які прыехаў у Беларусь ацаніць ход структурнай перабудовы ў эканоміцы рэспублікі, паставіўся да гэтай падзеі менш аптымістычна. На яго думку, вынікі гэтага пагаднення залежаць ад беларускага ўрада. Дарэчы, як і тое, ці атрымае Беларусь ад Сусветнага банка крэдыт каля 500-700 мільёнаў долараў на перабудову структуры эканомікі. Пакуль жа спадар Кавальскі схільны да таго, каб не прапанаваць пазыку старым структурам, якія не далі поспехаў у мінулым.

### КАБ НЕ ПЕРАЙСЦІ ПААСОБКУ

Інтэграцыйныя працэсы, распачатыя лідэрамі краін Садружнасці падчас сустрэчы ў Маскве, натхнілі да дзеяння і прадстаўнікоў шэрагу рухаў і арганізацый, што існуюць у Беларусі. У бліжэйшы час яны плануюць стварыць дэмакратычнае аб'яднанне „Вясна-94".

Мэта аб'яднання — стварэнне агульнымі намаганнямі палітычных умоў для цывілізацыйнага пераходу ад таталітарнай сістэмы да прававой дэмакратычнай дзяржавы. Арганізатары — Аб'яднаная дэмакратычная партыя і Беларуская сялянская партыя — спадзяюцца, што адным з першых падпіша ўстаноўчыя дакументы дэмакратычнага аб'яднання Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслаў Шушкевіч.

### КОЖНЫ ЧАЦВЁРТЫ МЯНЧУК — БЕСПРАЦОЎНЫ

Дзяржаўныя прагнозы аб рэзкім скарачэнні штатаў на многіх прадпрыемствах Беларусі ў выніку эканамічных катаклізмаў апошняга часу, па ўсім, відаць, спраўдзяцца.

У першым паўгоддзі ў дзяржаўную службу занятасці насельніцтва звярнулася 97 тысяч чалавек. Амаль 55 тысяч з іх зарэгістраваны як беспрацоўныя. Зразумела, хутчэй адчулі на сабе цяжар беспрацоўя жыхары вялікіх гарадоў — у Менску, для прыкладу, дзяржаўныя службы могуць дапамагчы працаўладкавацца толькі кожнаму чацвёртаму з тых, хто мае патрэбу.

### ЗА ПРОДКАЎ У АДКАЗЕ — НАШЧАДКІ

Да грамадскасці і ўрада Швецыі вырашылі звярнуцца прадстаўнікі Лідскага гарадскога выканаўчага камітэта з просьбай аб аказанні дапамогі ў рэстаўрацыі помніка гісторыі — Лідскага замка. Справа ў тым, што ўласнымі намаганнямі замак аднаўляецца не больш — не менш як дваццаць гадоў, а менавіта шведскія часці Карла XII зруйнавалі гэту зямлю. Пасля гэтай злачыннай акцыі старажытнае збудаванне ніяк нельга аднавіць.

### НОВАЕ ПАКАЛЕННЕ ВЫБІРАЕ

Жаданні дзяцей — люстэрка жыцця бацькоў. Аб чым мараць маленькія жыхары Беларусі? Згодна з паказаннямі сацыялагічнага апытання групы школьнікаў — амаль, выяўлена, дзве трэці іх хацелі б мець добрую кватэру і атрымаць добрую прафесію, амаль 50 працэнтаў бачыць сябе ў сне за рулём аўтамабіля або жыве за мяжой краіны. У 12 працэнтаў больш сціплае жаданне — знайсці добрага спадарожніка жыцця.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

# ПРАЗЯВАЕШ — НЕ МАЕШ!



Быў у Бельску-Падляшскім клуб Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Быў час, калі прыходзілі туды людзі і... гулялі ў шахматы. Быў сярод аматараў "каралеўскай гульні" і Валянцін Гушч. Вось за шахматнай дошкай я і пазнаёміўся з гэтым сяброўскім, спакойным чалавекам. Здавалася, нічым ён асаблівым не вызначаўся сярод "нашых хлопцаў". Можа толькі тым, што салідна змагаўся ў шахматы. Жыў як многія -- звычайна, даволі скромна ў старой хаце па вул. Нарутовіча. Супольна праведзеныя вечары за шахматнай дошкай не прайшлі бясследна...

Некалькі гадоў пазней спатрэбіўся мне вугаль, каб абагрэць хату. Калі ласка. У Бельску ёсць фірма "Węgiel", якая такую праблему вырашае неадкладна. Ужо цёпла. Аказваецца -- шэфам фірмы з'яўляецца мой даўні шахматны сапернік -- Валік Гушч.

-- Як гэта сталася? -- пытаю ў яго.

-- Ваня, можа так: я -- адзін з шэфаў нашай фірмы. Нас трох, яшчэ Яўген Сцепанюк і Кшыштаф Сысула. Фірма паўстала амаль тры гады таму назад. Пачатак быў такі: мая ініцыятыва плюс грошы сяброў. Раней працаваў я ў транспартнай дзяржаўнай установе, дзе здабыў вопыт. Транспарт у гаспадарцы, як кровазварот у жывым арганізме. Злучае ён розныя элементы, дастаўляе неабходныя матэрыялы. Вельмі важна, каб усё патрэбнае даставіць на час. Празяваеш -- не маеш! Зрэшты ва ўсім так, напрыклад, у шахматах.

Вядома, калі ўжо мы сустрэліся, не абышлося без шахматаў. Прыйшлося мне прайграць. Пацяшаюся, што з моцным ігракам.

-- Хто ты такі? -- мае нервы крыху здаюць.

Валік спакойна адказвае на маю прыдзірлівасць.

-- Я, сын гэтай зямлі -- Падляшша, звычайны беларус. Мне добра вядома адчуванне цёплага пяску пад босымі нагамі ў дзяцінстве, асвяжаючых пырскаў вады ў Арлянцы ды пах сасновага бору. Калісьці шэсць гадоў іграў я на духавых інструментах у аркестры. Добра ўспамінаю капельмайстра Садліцкага, які вучыў, што найважнейшае ў музыцы -- не фальшывіць. Такое правіла патрэбнае ва ўсім, у працы, сяброўстве.

-- А што самае важнае для цябе? -- пытаю.

-- Мая сям'я, дом, -- адказвае. -- Вельмі важнае мець сваё месца пад сонцам, пачуццё ўласнай вартасці, быць патрэбным іншым, ну і яшчэ патрэбны грошы. Такая цяпер рэчаіснасць...

-- А здароўе? -- умешваюся.

-- Няма калі хварэць. Жывем у такі час, калі трэба салідна працаваць. Мая праца ў фірме -- гэта не восем гадзін, якія адбухаў і дахаты. Трэба таксама ўмець жыць з людзьмі. Нялёгка, але цікава працуецца. Бываюць паражэнні, але ёсць і ўдачы, як у шахматах. Вытрымка і саліднасць у тым, што робіш, прыносяць добрыя вынікі. Дарма цяпер нічога няма. Мінуў час, калі манна сама сыпалася з неба, -- разважае сябра.

-- Аднак людзі часта на нешта спадзяюцца. Чаго можна спадзявацца ад фірмы "Węgiel" з Бельска?

-- Перш за ўсё спецыялізуемся ў продажы вугалю з пастаўкай, куды каму трэба. У нас можна купіць таксама будаўнічыя матэрыялы: цэмент, вапну, жвір... Перавозім розныя тавары. Увосень купляем у гаспадароў бульбу. Забіраем проста з панадворка і плацім на месцы. Нашыя паслугі тэрміновыя і выконваем усё спраўна. Так трэба. Варта адзначыць, што заплату за вугаль можам разлажыць на раты, што не часта здараецца ў іншых фірмах.

-- А што ты сказаў бы, Валік, таму, хто хоча мець поспехі?

-- Кожны мае свой розум і няхай ім карыстаецца. Добра думаць і працаваць. "Не памыляецца толькі той, хто нічога не робіць". А табе зараз прапаную наступную партыю ў шахматы. Калі хочаш выйграць -- змагайся.

Зноў мы схіліліся над расстаўленымі фігурамі. Варта скарыстаць з сяброўскай парады, ды не толькі ў шахматнай гульні!

**ЯН МОРДАНЬ**

# ХУЛІГАНСТВА Ў ГАЙНАЎЦЫ

Самай папулярнай формай адпачынку гэтага лета ў Гайнаўцы была дыскатэка ў гарадскім парку. Месца гэтае завуць „Пад грабамі". Зрабілі там невялікую сцэну для музычнага гурту, паставілі крамку з півам і папяросамі ды імпрэза гатовая. Кожную суботу сыходзіцца туды моладзь не толькі з усяго горада, але і наязджае з навакольных вёсак. Дыскатэка трывае далёка за поўнач. Натоўп мітусіцца амаль усю ноч — хто гуляе, хто п'е піва, а хто шукае дракі. Такія ж дыскатэкі адбываюцца і ў іншым месцы Гайнаўкі — „Пад дубам" менавіта, што каля былога кіно „Ляснік".

У суботу 11 верасня „Пад дубам" атрымалася большая, чымсьці звычайна, драка. У дыскатэку ўмяшалася мясцовая паліцыя — Раённая камендатура зусім недалёка (па другі бок вуліцы). Можна тут здагадвацца, чаго датычыла інтэрвенцыя мясцовых фукцыянераў, але паколькі давялося мне аднойчы быць на гайнаўскай дыскатэцы, то ведаю, што да бойкі там даходзіць хутка. Гэтым разам аднак паліцыі не ўдалося супакоіць удзельнікаў дыскатэкі — яны пачалі адбі-вацца і выглядае на тое, што вельмі па- спяхова, бо прымусілі функцыянераў адступіцца ў будынак камендатуры. Затым камянямі абкідалі гэтую ж камендатуру, выбіваючы там, як паведаміў прэсавы прадстаўнік паліцыі ў Беластоку, 40 шыбаў. На падмогу гайнаўскай паліцыі прыехала паліцыя з Беластока, якая абставіла, здаецца, увесь горад — функцыянеры затрымоўвалі ўсё, што яшчэ тою парою варушылася на вуліцы. У іхнія рукі трапіў і мой швагер з сябрамі. Швагер, які жыве ў зусім іншым канцы Гайнаўкі, якраз спраўляў свой дзень нараджэння. Падвыпіўшы, выйшаў ён з сябрамі на вуліцу, каб трохі праветрыцца, а давялося — бегаць па хатах за дакументамі. На шчасце хапіла маладым розуму, каб не дыскутаваць з нервовымі функцыянерамі, бо досталі б дубінкамі па спінах. Толькі на другі дзень усё высветлілася — што ж, паліцыі нельга здзіўляцца, бо ндзе на свеце яна не любіць, калі п'яныя падлеткі б'юць іхніх калег.

Паліцыя затрымала агулам 17 чалавек, у тым ліку і асобы, якія напалі на гайнаўскіх функцыянераў. Трох паліцыянтаў трапіла з пабоямі да лекара.

**А. МАКСІМЮК**

# ЗУБЫ ІРВУЦЬ ДАРМА

Не адзін чалавек задумоўваецца сёння, на што адводзяцца 45% ягоных заробкаў, асабліва, калі існуючая да гэтай пары сацыяльная ахова здароўя грамадзян перастала амаль існаваць. Асвета фармальна бясплатная, але кожны, хто пасылае дзяцей у школу, ведае, колькі яна каштуе ў сапраўднасці. Гэта самае датычыць і медыцынскіх паслуг, якія таксама фармальна быццам бы бясплатныя. У рэчаіснасці бывае зусім інакш. Калі майму суседу забалела сэрца, лекар з „раёна" паслаў яго зрабіць спецыялістычныя абследаванні, называлася гэта, здаецца, „кардыяграфіяй". У ваяводскім шпіталі ў Беластоку сказалі яму, што могуць зрабіць аналіз працы яго сэрца, але праз... 4 месяцы. Сусед не паспеў і падумаць, ці дажыве да назначанага тэрміну, калі заклапочаная яго здароўем рэгістратарка праінфармавала, што такі аналіз можна зрабіць за некалькі гадзін, або і на другі дзень у прыватным кабінеце „пана доктара". Шчаслівы чалавек запісаўся на другі дзень, бо трэба яму было пазычыць дзесьці 400 тысяч злотых.

Можа не ўсе хварэюць на сэрца, але кожны, у каго ёсць зубы, прынамсі раз у год мае кантакт з дантыстам. Вядома, што перш за ўсё ідзем спачатку ў раённую амбулаторыю. У Беластоку першы візіт найчасцей канчаецца тым, што назначаць нам толькі дату наступнага. Калі моцна баліць зуб, лекар можа, але не мусіць прыняць хворага пры канцы дня сваёй працы. Ніжэйпадпісанаму так ужо надаела лячэнне аднаго зуба, якое цягнулася тры месяцы, а той далей балеў, што рашыўся яго пазбыцца. Пані доктар, відаць, спяшалася. Пасадзіўшы мяне ў крэсла пачала рабіць уколы ў ваколіцы балючага зуба, але такой іголкай, што хапіла толькі глянуць на яе, а ўжо ў вачах пацямнела. Не паспела яна яшчэ схаваць іголку, як схапіла абцужкі і давай імі шарпаць мой няшчасны зуб. Разам з зубам калывалася мая галава. У канцы зуб зламаўся. Пані дантыстка ўзяла нейкае долатка і давай калупаць далей. З болю я абамлеў. Калі прыйшоў я да памяці, спецыялістка па лячэнню зубоў заявіла, што ў мяне эпілепсія і паслала мяне ірваць мае карані ў паліклініку. Там, праўда, нейкія дзве студэнткі пад кіраўніцтвам выкладчыцы зрабілі гэта так, што я адчуваў сябе лепш, чым у касметычным салоне.

Усё-такі тыя візіты ў раённага стаматолага прымусілі мяне скарыстаць з паслуг медыкаў у прыватных кабінетах. Тут найчасцей тыя ж самыя лекары пасля працы ў грамадскіх установах лечаць зуб у 30 хвілін, замест трох месяцаў, усміхаючца да сваіх кліентаў, пацяшаюць, што балець не будзе, пытаюць пра здароўе жонкі, дзяцей ды цёшчы. Проста — не тыя людзі, не тыя лекары.

Толькі навошта плацім мы ўсе на грамадскую ахову здароўя, калі яна перастала выконваць тую ролю, да якой была створана? Калі хтосьці захварэе і так мусіць плаціць, афіцыйна ці неафіцыйна, аднак, мусіць — за паслугі, за лякарствы і ў канцы за самую „заклапочанасць" медыкаў аб нашым здароўі.

Так ці інакш, усе медыцынскія паслугі сталі даступнымі толькі багатым. Большасці грамадзян дзяржава адбірае грошы пры кожнай зарплаце, не пытаючыся ў іх згоды. Узамен, аднак, няма ніякай гарантыі аховы іх здароўя. Сістэма гэтая адбірае адначасова магчымасць самому зацікаўленаму аплачваць лекараў. Адбіраецца таксама пенсіянерам частку іх пенсіі, каб пасля дафінансоўваць іх лячэнне.

У большасці краін свету чалавек сам рашае, у які спосаб бараніцца перад хваробай, а ў нас над усім яшчэ царствуе дзяржаўная адміністрацыя. У рэчаіснасці, калі чалавек захварэе, за сваё лячэнне плаціць двойчы. Раз плаціць толькі тады, калі здаровы і не карыстаецца лекарскімі паслугамі.

**ВАСІЛЬ КУРГАНОВІЧ**




**Шаноўны Спадар Галоўны Рэдактар,**

вось гэтымі днямі вярнуўся я з роднай Вільні. Здаецца, гэтая пабыўка вярнула мне частку маладосці, уліла надзею ў аднаўленне сувязі з „Нівою".

Зараз рыхтую артыкул. Яшчэ дзеньдва і ён будзе гатовы. А там ужо рашайце, што з ім рабіць. Прызнаюся — пішу вельмі эмацыянальна, перажываю, і нічога дзіўнага; шмат над Віліяй было нечаканасцей. Скажу толькі, што жонка Лявона Луцкевіча, дачка Зоські Верас — мая сяброўка з Беларускай Віленскай гімназіі. Цудоўная гэта была сустрэча!

На жаль, не распараджаюся машынкай, а беларускага консула не смею турбаваць, хаця заўсёды ветліва госціць, не мае нічога супраць, каб карыстацца машынкай. Усё ж гэта месца дыпламатычнае.

Спадар Шахновіч (*Генеральны консул РБ у Гданьску — рэд.*) наладзіў урачыстасць — падняцце бел-чырвона-белага сцяга — у вельмі абмежаваным коле запрошаных гасцей; і тутака быў ксёндз Янкоўскі... Дзе мне там да такога асяроддзя!

Дык вось неўзабаве вышлю можа мой дэбют пасля столькі гадоў маўчання на бачынах „Нівы". Пішу „можа"... Справа ў тым, што мо гэтая эмацыянальнасць не прыйдзецца да спадобы рэдкалегіі і Вам асабіста. Аднак не трачу надзеі...

Моцна цісну руку, паздраўляю цэлы калектыў „ніўцаў"!

З глыбокай пашанаю,
**МАЦЕЙ КАНАПАЦКІ,**
Сопат

**Ад рэдактара:**

Паважаны Спадар Мацей Канапацкі, мы добра памятаем Вашыя тэксты ў „Ніве" і цешымся, што зноў вяртаецеся на нашыя старонкі.

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

# ФАБІЯН АКІНЧЫЦ І ЯГОНЫ ЛЁС

### ЧАСТКА ДРУГАЯ

На пачатку верасня 1926 года Фабіян Акінчыц пераязджае ў Вільню працаваць у цэнтральных органах Беларускай сялянска-работніцкай грамады. Акінчыц пасля прыезду атрымоўвае пасаду кіраўніка юрыдычнага аддзялення партыі. Разам з ім працавалі: Філіп Назарук (ён родам з нашых Ягаднікаў, што каля Гайнаўкі; калі нехта з жыхароў вёскі мае нейкія звесткі пра ягоную асобу, вельмі прашу скантактавацца з рэдакцыяй „Нівы") і Эмма Залкінд. Юрыдычнае аддзяленне займалася, між іншым, абаронай тых членаў Грамады, якіх абвінавачвалі ў палітычных злачынствах. Аддзяленне займалася таксама арганізацыяй гурткоў партыі па ўсёй тэрыторыі Заходняй Беларусі. Акінчыц апрача працы ў гэтай установе, займаў адначасна пасаду сакратара пасольскага клуба Грамады. Таксама кіраваў ён канцылярыяй клуба, займаўся рэдагаваннем і апрацоўваннем усіх пасольскіх інтэрпеляцый, быў рэдактарам інфармацыйнага бюлетэню пасольскага клуба. Абавязкаў было шмат, але Акінчыц іх выконваў спраўна і адказна.

Акінчыц апынуўся ў Вільні ў часе найвялікшага арганізацыйнага ўздыму партыі. Быў ён магчымы, дзякуючы палітычнай завірусе, якая праходзіла гады ў Польшчы. Пасля майскага перавароту 1926 года, Язэп Пілсудскі і санацыйныя палітыкі не мелі яшчэ канкрэтных планаў у дачыненні да нацыянальных меншасцяў. І вось гэты перыяд да студзеня 1927 года, да часу разгону Грамады, дзеячы партыі стараліся выкарыстаць максімальна.

Шлях да пашырэння сваёй дзейнасці актыў Грамады бачыў у падпарадкаванні іншых беларускіх грамадска-культурна-асветных арганізацый. Нешматлікасць кадраў беларускага палітычнага руху была галоўнай прычынай займання тымі ж самымі асобамі адказных пастоў у некалькіх адначасна арганізацыях (падабенства да сённяшняга лёсу беларускага арганізацыйнага жыцця Беласточчыны аж надта выразнае). Асаблівую ўвагу дзеячы Грамады звярнулі на здабыццё кіраўніцтва над Таварыствам беларускай школы (ТБШ). Цераз ТБШ партыя магла б умацаваць сваю пазіцыю асабліва сярод вясковай моладзі. Таму не трэба здзіўляцца, што ўжо на другі дзень пасля прыезду ў Вільню, Акінчыц удзельнічае ў выбарах Галоўнай управы і Надзорчай рады ТБШ. У выніку выбараў улада поўнасцю апынулася ў руках грамадоўцаў. Старшынёю быў абраны Радаслаў Астроўскі, сакратаром Язэп Шнаркевіч, членамі сталі між іншым: Ігнат Дварчанін, Браніслаў Тарашкевіч. Акінчыц быў выбраны намеснікам Шымона Рака-Міхайлоўскага, які ўзначаліў Рэвізійную камісію.

На Акінчыцу — як юрыдычным кансультанце партыі, лягла аграмадная адказнасць. Мусіць ён безупынна даказваць польскім уладам, што дзеянні Грамады і ТБШ згодныя з канстытуцыяй. Грамадоўскі перыяд дзейнасці Акінчыца на тым, аднак, не канчаецца. 7 лістапада 1926 года ў Вільні адбыўся ўсеагульны сход членаў віленскіх гурткоў Грамады. На сходзе стварыўся адзін гарадскі камітэт партыі, старшынёю якога ўдзельнікі выбралі Ф. Акінчыца. Значэнне віленскага гарадскога камітэта БСРГ у жыцці партыі было аграмаднае. Тут знаходзіўся цэнтр беларускага палітычнага жыцця ў II Рэчыпаспалітай. Вільня як адміністрацыйна-гаспадарча-асветны цэнтр быў месцам вострай барацьбы беларускіх, літоўскіх, яўрэйскіх і польскіх палітычных інтарэсаў. Выбар Акінчыца на гэты пост абазначаў давер не толькі ягоным арганізацыйным магчымасцям, але і высокім ідэйным якасцям. Кіруючы дзейнасцю Грамады ў Вільні, звярнуў ён увагу на прапаганду. Цераз ягоныя рукі пераходзіла ўся партыйная літаратура. Сур'ёзнай праверкай працы былі выбары ў гмінныя і гарадскія самаўрады восенню 1926 года. У Вільні ўзнік выбарчы блок партыяў левага напрамку (Грамады, КПЗБ і польскай Незалежнай сялянскай партыі (NPCh), які атрымаў найбольш галасоў. У час працэсу актыву партыі гэтая справа была выкарыстана судом, каб даказаць Акінчыцу супрацоўніцтва з камуністамі. На судзе ён станоўча заяўляў, што паміж Грамадой і КПЗБ не існавала супрацоўніцтва, а камуністы не мелі аніякага дачынення да кіравання партыяй. Бароначы Грамаду і ейнае кіраўніцтва перад такімі закідамі, бараніў ён сябе і тую частку грамадоўскіх дзеячоў, якія былі звязаныя з нацыянальнай, а не камуністычнай ідэалогіяй. У час працэсу Акінчыц вёў сябе з вялікай годнасцю, не адцураўся ад сваёй дзейнасці ў Грамадзе, не абцяжарыў сваіх сяброў з кіраўніцтва партыі сведчаннямі, што з'яўляліся яны сапраўды членамі КПЗБ.

Разбіццё партыі наступіла ў ноч з 14 на 15 студзеня 1927 г., калі польскія ўлады арыштавалі праваднікоў партыі і пасадзілі іх у паасобныя камеры Лукішскай турмы ў Вільні. Адтуль яны на год часу былі пераведзеныя ў цяжкую турму ў Вронках. Вяртанне ў Вільню адбылося на час працэсу Грамады, які трываў ад 23 лютага да 22 мая 1928 года.

Пракурор Юзэф Пжылуцкі закінуў Браніславу Тарашкевічу, Шымону Раку-Міхайлоўскаму, Паўлу Валошыну, Пятру Мятле, Фабіяну Акінчыцу, Радаславу Астроўскаму, Максіму Бурсэвічу, Язэпу Шнаркевічу, што яны, між іншым, „w okresie od roku 1926 do połowy 1927 brali udział w spisku pod nazwą BWRH, zawiązanym w celu dokonania zamachu na ustalony w drodze praw zasadniczych ustrój państwowy Polski, oraz na całość jej terytorium przez wprowadzenie dyktatury proletariatu, ustroju radzieckiego i oderwanie od Polski za pomocą zbrojnego powstania województw północno-wschodnich i przyłączenie ich do Rosji Sowieckiej, przy czym dla urzeczywistnienia tego celu rozporządzali składami broni".

Як відаць, дзейнасць Акінчыца знайшла „прызнанне" ў ацэнцы судовых уладаў, якія паставілі яго ў групу найбольш „небяспечных" дзеячоў партыі. Ніхто з прысуджаных не сумняваўся ў тым, што рашэнні пра іхні лёс былі прынятыя не ў судовых залах, а ў варшаўскім Бельведэры. Суд меў толькі перад усім даказаць антыдзяржаўнасць іхніх дзеянняў. І нават славуты тадышні адвакат Тэодар Дурач не змог даказаць беспадстаўнасці акту абвінавачання. У выніку прыгавору суда Тарашкевіч, Рак-Міхайлоўскі, Мятла і Валошын атрымалі па 12 гадоў турмы, а Акінчыц і Бурсэвіч — па 8 гадоў. Пасля прачытання прысуду ўсе абвінавачаныя адспявалі гімн партыі „Ад вякоў мы спалі". Трэба адзначыць, што ў час працэсу ўсе яны адказвалі выключна па-беларуску. Апеляцыйны суд над Грамадою адбываўся ад 28 лютага да 16 сакавіка 1929 г. у Вільні, аднак нават без прысутнасці аніводнага з прыгавораных. Апеляцыйны суд усім паслам зменшыў пакаранне з дванаццаці да шасці гадоў, а для Акінчыца і Бурсэвіча з васьмі таксама да шасці. Як відаць, суд цэлае кіраўніцтва абдзяліў „справядліва", у тым выпадку значыць пароўну.

Грамадоўскі перыяд дзейнасці быў вельмі важным у жыцці Акінчыца. На працягу вельмі кароткага часу (верасень — снежань 1926 г.), зусім невядомы ў беларускім нацыянальным жыцці чалавек знайшоўся ў кіраўніцтве наймагутнейшай беларускай партыі. Ягоная дзейнасць у тым часе была бясспрэчна адданай справе Грамады і таму, хіба, кіраўніцтва партыі прыняло Акінчыца ў свой вузкі круг, даваючы яму адказныя функцыі. З перспектывы часу відаць, што Акінчыц належаў да той часткі дзеячоў, якія тады верылі ў магчымасць вырашэння беларускіх праблем шляхам супрацоўніцтва з польскім урадам і парламентам. Не будучы камуністам, найвышэй ставіў ён нацыянальную справу. Маючы такія погляды, не належаў ён да прыхільнікаў спалучэння зямель Заходняй Беларусі з Савецкай. Вельмі цікавыя заўвагі наконт кіраўніцтва Грамады і ейных членаў запісаў Леон Васілеўскі (блізкі супрацоўнік Пілсудскага, спецыяліст па вывучэнні праблем нацыянальных меншасцяў), які з 4 да 30 студзеня 1927 г. пабываў ва ўсходніх ваяводствах. Візіт, відаць, быў запланаваны невыпадкова, бо ў часе разгону Грамады. Вось вобраз БСРГ у польскіх вачах: „Członkowie Hromady rozpadają się na 4 kategorie: zakonspirowana grupa kierownicza — komunistyczna, nacjonaliści białoruscy, którzy uważają, że nabierają komunistów prowadząc robotę nacjonalistyczną za ich pieniądze, masa niezadowolonych bez różnych kierunków, wreszcie konfidenci polscy występujący aktywnie i radykalnie dla pozyskania zaufania".

Грамадоўскі перыяд у жыцці Акінчыца быў пачаткам ягонай палітычнай дарогі. Яго дзейнасць у Грамадзе была яшчэ пазбаўлена палітычных інтрыгаў, фальшывых абвінавачванняў іншых беларускіх палітыкаў — метадаў нечужых яму ў пазнейшым перыядзе.

*(Працяг будзе)*

**ЯЎГЕН ВАПА**

# ЛЕШАК МАЧУЛЬСКІ ДЛЯ „НІВЫ"

Тыдзень перад выбарамі, у нядзелю 12 верасня з выбарщчыкамі ў Беластоку сустрэўся старшыня Канфедэрацыі незалежнай Польшчы (КПН) Лешак Мачульскі. Сустрэча мела месца ў зале пасяджэнняў філіяла Варшаўскага універсітэта на вул. Лінярскага 4. Лідэр КПН меў звыш двухгадзіннае выступленне, у якім ахарактарызаваў палітычную сітуацыю ў Польшчы і ставіў прагноз, наконт складу будучага польскага парламента. На яго думку, у Сейме будуць засядаць прадстаўнікі толькі пяці партый: Дэмакратычнай уніі (УД), Беспартыйнага блока падтрымкі рэформаў (ББВР), Польскага людовага аб'яднання (ПСЛ), Саюза левых дэмакратаў (СЛД) і КПН. Магчымыя варыянты ўрадавай кааліцыі:

а) згуртаванасць вакол КПН,

б) згуртаванасць вакол СЛД,

в) па-ранейшаму ўладу выконвае УД, а ў апазіцыі знаходзяцца СЛД і КПН.

Карыстаючыся нагодаю выбарчага спаткання, „Ніва" паставіла Л. Мачульскаму два пытанні:

*— Ці ў цяперашняй сітуацыі за нашай усходняй мяжой Польшча можа весці актыўную палітыку ў дачыненні да новаўзніклых дзяржаваў — Літвы, Беларусі і Украіны — трактуючы іх як суб'екты той палітыкі, а не як васалаў Масквы?*

— Дачыненні з балтыйскімі дзяржавамі, з Беларуссю і Украінай — гэта, у праграме КПН, найважнейшы накірунак нашай замежнай палітыкі. У ніякім разе ён не можа быць пад кантролем Масквы. У палітычных спрэчках, што ўзнікаюць паміж гэтымі новымі дзяржавамі і Масквой, Польшча павінна выразна браць бок гэтых дзяржаваў. Да гэтай пары Польшча ў сваёй замежнай палітыцы свайго становішча не выяўляла, звычайна прамоўчвала або старалася заняць становішча нейк пасярэдзіне. Вядома, у тых новых дзяржавах могуць узнікаць розныя заўвагі і недавер да палякаў (цяпер мне не хочацца тут разважаць — апраўданыя гэты заўвагі ці не), але хачу сказаць адно — калі б кіраваў Польшчай КПН, такіх заўвагаў і недаве有 не было б. У актуальнай сітуацыі Польшчы трэба было б падтрымаць Украіну, якая найвыразней імкнецца да незалежнага быту. Вельмі шкадую, што супрацоўніцтва паміж Беларуссю і Украінай цяперашнім часам не складаецца найлепш. Але Польшча, безумоўна, магла б ангажавацца больш на баку нашых усходніх суседзяў, і палітычна, і гаспадарча. Гаспадарчая ангажаванасць сутыкаецца, аднак, з адной асноўнай цяжкасцю. Калі не будзе выразнай мяжы паміж дадзенай краінай і Расеяй, дык Польшча не можа ўспамагаць гэтыя краіны гаспадарча, таму што мы не будзем ведаць, у якія рукі тая дапамога трапіць. Найлягчэй у гэтым сэнсе з Літвой, найцяжэй, на жаль, — з Беларуссю. Тым не менш, розныя іншыя формы супрацоўніцтва павінны быць. Гаворыцца, прыкладам, аб будаванні аўтастрады ад Атлантыкі да Масквы. Для мяне найважнейшы адрэзак гэтае аўтастрады пралягае з Менска да Варшавы. Гэты адрэзак павінен ісці так, каб ён нас узаемна ўзмацняў. Я думаю, ён павінен ісці праз Беласток, а не праз Брэст. Чым хутчэй будзе знімацца адасобленасць дзяржаваў у сэнсе палітычных межаў і шляхоў зносін, тым хутчэй будуць знікаць усялякія напружанні нацыянальнага характару (у тым і з нацыянальнымі меншасцямі).

*— Як Вы бачыце дзяржаўную палітыку ў дачыненні да нацыянальных меншасцяў у Польшчы? Ці трэба менавіта трактаваць свае меншасці — літоўцаў, беларусаў, украінцаў — як заложнікаў усходняй палітыкі Польшчы?*

— Цяперашні ўрад не мае выразнай канцэпцыі палітыкі ў дачыненні да нацыянальных меншасцяў. Яна вядзецца, я б сказаў, на нейкім абстрактна-інтэлігенцкім узроўні — правы чалавека трактуецца ў абсалютным разрыве з этнічнай рэальнасцю. Гэта, можа, менш датычыць беларусаў у Польшчы, бо яны жывуць сукупна, і тут маюць вялікі плюс, а больш закранае расцярушаных па краіне ўкраінцаў. Пры яснай канцэпцыі палітыкі адносна нацыянальных меншасцяў можна было б прыняць шэраг простых вырашэнняў, якія хаця б паспрыялі разрэджанню густой і непрыхільнай вакол нацыянальных меншасцяў атмасферы.

Запісаў **ЯН МАКСІМЮК**

# ВІНОЎНІКА ПАКУЛЬ НЯМА

„Ніва" ў свой час адводзіла шмат увагі інцыдэнту ў варшаўскім клубе БГКТ, які меў месца 4 студзеня г. г. Як чытачы пэўна памятаюць, уласнік гэтага памяшкання — Прадпрыемства абслугі замежнікаў „Dipservice" — пасля памятнага дня выкінуў адтуль Беларускае таварыства, а мэблю ды іншае абсталяванне клуба па сённяшні дзень трымае ў сябе на складзе.

Інцыдэнт расследавала Раённая пракуратура Варшавы-Макотуў. 30 чэрвеня яе рашэннем прыпынена расследаванне ў справе, як гэта па-юрыдычнаму ваясняецца, „zmuszenia Mikołaja Aleksiejuka i Teodora Golonko poprzez zastosowanie przemocy do określonego zachowania się, pobicia Mikołaja Aleksiejuka i Teodora Golonko oraz zniszczenia mienia na szkodę Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego". Далей пералічваюцца адпаведныя параграфы і пункты крымінальнага кодэксу. Вядучая справу асэсар Данута Круляк-Стаховяк вынесла такое рашэнне „wobec braku znamion przestępstwa".

Пакрыўджаныя таксама, паводле пракуратуры, не зрабілі ўсіх неабходных фармальнасцяў, складаючы скаргу.

Гэтае рашэнне, аднак, не праваможнае. Мікалай Алексяюк апеляваў у Ваяводскую пракуратуру ў Варшаве.

**М. В.**

## НАШЫ КАРАНІ

### LVIII. СВЕТАЧ ПРАВАСЛАЎНАЙ КУЛЬТУРЫ

Славуты беларускі вучоны-гуманіст і першадрукар Георгій (Францішак) Скарына нарадзіўся каля 1486 года. Як памятаем з папярэднесказанага, гэта былі цяжкія часы для праваслаўных у Беларускай дзяржаве (Вялікім княстве Літоўскім). Тады не сунімаліся нацiскі і з боку каралеўскіх чыноўнікаў, і ад усё гусцей наплываючых з Захаду мніхаў розных каталіцкіх ордэнаў з імкненнем навярнуць у каталіцызм „праваслаўных схізматыкаў”. Каталікі тады велічалі сябе „людзьмі каралеўскай веры” і ўсюды мелі першынство, да праваслаўных жа адносіліся як да людзей горшага сорту або проста як да „быдла”. Відаць, бацька будучага вучонага, дбайны полацкі купец, неаднойчы сам на сабе балюча адчуў гэтую пагарду і несправядлівасць ды па-свойму паклапаціўся аблягчыць жыццё сыну, засцерагчы яго ад здзекаў. Ён загадаў затаіць праваслаўнае імя Георгія, якое было дадзена сыну на св. хрышчэнні ў царкве, і наказаў ужываць надта ж моднае тады сярод каталікоў найменне Францішак, або Францыск, як любяць называць Скарыну русафілы.

Такі спосаб аблягчання жыцця не звёўся, як вядома, і ў нашыя часы. Слабавольныя або надта ж „хітрыя” праваслаўныя бацькі даюць сваім дзецям каталіцкія імёны, у лепшым выпадку падбіраюць нейтральныя, якія ўжываюцца і ў каталікоў і ў праваслаўных як Андрэй, Антон, Павал, Давід, Ева, Анна, Марыя і г.д. Гэты працэс асабліва моцна захапіў беларускіх „дзеячоў” на Беласточчыне, тут усе Іваны раптам сталіся Янамі, а то нават і Янушамі, Васілі — Базылямі або Вацкамі, Ніны — Янінамі і г.д. Што ж, калі так паступаюць звычайныя, нацыянальна маласвядомыя людзі, дык гэта зразумела: яны шукаюць паратунку ад упікванняў, пагарды і нярэдка адкрытых праследаванняў з боку нашых „братоў у Хрысце”. У сваё апраўданне кажуць: „Жыццё і без таго цяжкае, нашто яшчэ імя мае быць мне ці майму дзіцяці топельным каменем на шыі”. Аднак самае дзіўнае, што вельмі часта адступнікамі ад сваіх праваслаўных імёнаў стаюцца ў нас асобіны, якія з незвычайнай пыхлівасцю ставяць перад сваімі прозвішчамі навуковыя званні „доктар”, „дацэнт” ці нават „прафесар”, можна б мовіць: „беларуская нацыянальная эліта” і то ў эпоху нябачанага дагэтуль росквіту ў нашай краіне перадавой еўрапейскай дэмакратыі?!

Таму і не дзівота, што полацкі купец Лука Скарына ў тыя часы сярэднявечнай каталіцкай неталерантнасці загадаў сыну затаіць сваё праўдзівае імя і тым самым праваслаўную веру. Няма сумнення, што юнаку з імем Францішак лягчэй было трапіць у школку пры касцёле св. Францішка, якую ў Полацку ў 1498 г. заснаваў каталіцкі ордэн бернардзінцаў, а таксама потым быць прынятым у навучальную ўстанову пры Віленскім арцыбіскупстве і затым займацца ва ўніверсітэтах у Кракаве і іншых заходніх, каталіцкіх гарадах, быць дапушчаным да экзамену на званне доктара лекарскіх навук у архікаталіцкай італьянскай Падуі.

Аднак змена імя не змяніла душы сына беларускага праваслаўнага народу, пачуцця непарыўнай прыналежнасці да яго. Георгій (Францішак) Скарына назаўсёды застаўся праваслаўным і праваслаўнаму люду прысвяціў сваю дзейнасць. Іменна для праваслаўных беларусаў у 1517-1519 гадах выдаў у чэшскай Празе „Псалтыр” і 22 кнігі Старога Запавету (гэтак званую „Біблію Руску”), а ў Вільні ў 1522-25 гадах „Апостал” і „Малую падарожную кніжыцу”.

Вядомая беларуская скарыназнавец і царкоўная дзяячка Валянціна Дышыневіч заўважае: „Як добры лекар, доктар Скарына вызначыў галоўнае для духовага здароўя чалавека і з уважлівасцю добрага пастыра давёў да „люду паспалітага”, як трэба жыць па запавету любові Хрыстовай, як выратаваць душу сваю. Выратаванне душы чалавечай і душы народу ад скону — галоўнае для Скарыны-асветніка. Для гэтага ён шырока выкарыстоўвае ў сваіх прадмовах тэксты евангельскія, пасланні Апосталаў, асабліва апостала Паўла, творы ўсходніх св. Айцоў, старазапаветных прарокаў. Для гэтага стварае свае тлумачэнні, выкарыстоўвае новае кнігадрукаванне, цудоўна ўпрыгожвае свае кнігі, узбагачае ілюстрацыямі, каб люд „чтучы мог лепей разумети”.

Няма сумненя, што свае выданні Скарына выдаваў для праваслаўных чытачоў. „Аб гэтым сведчаць самыя тэксты іх — заўважае В. Дышыневіч, — у „Прадмовах” /да паасобных кнігаў — МГ/ ужыты агульнахрысціянскія дагматы, да падзелу Царквы ў 1054 г., няма адгалоскаў пазнейшых каталіцкіх дагматаў, у „Малой падарожнай кніжцы” надрукаваны праваслаўныя „Сімвал веры”, „Святцы” /каляндар/ з імёнамі праваслаўных святых / не знаходзім сярод іх, вядома, імені Францішак — МГ/, у малітвах няма абавязковага для каталікоў упамінання папы рымскага, затое ёсць малітвы „за праваслаўных хрысціян”, скарынінскія акафісты складзеныя па праваслаўнай візантыйскай традыцыі Усходняй Царквы і г.д... Ды і сама ідэя перакладу на родную /беларускую/ мову ідзе ад часоў Кірылы і Мяфодзія, якіх на пераклад Святога Пісання і багаслужэбных кніг на славянскую мову багаславіла Усходняя Царква Візантыі”.

Скарына не змог бы здзейсніць свайго велічнага подзвігу, калі б не ўспамагала і не падтрымала яго Праваслаўная Царква і згуртаваныя пры ёй грамадскія сілы, якія стваралі і абаранялі нацыянальную культуру беларусаў і ўкраінцаў ад паланізацыі. Дзякуючы гэтым сілам, на чале якіх стаяў спачатку мітрапаліт кіеўскі і ўсяе Русі Іосіф II Солтан, затым яго пераемнік мітрапаліт Іосіф III /перад пастаўленнем у мітрапаліта — архіепіскап полацкі/, князь Канстанцін Астрожскі, ваявода наваградскі Аляксандр Хадкевіч, бурмістр Вільні і праваслаўны царкоўны дзеяч Якуб Бабіч, у якога доме, між іншым, памяшчалася Скарынава друкарня, і дзесяткі іншых, вядомых па імю толькі аднаму Госпаду Богу ахвярных праваслаўных дзеячоў. Кнігі Скарыны асвяцілі ўсю Беларусь, трапілі ў суседнія землі. Яны таксама знаходзіліся і ў бібліятэцы нашага Супрасльскага манастыра і імі карысталася супрасльская манаская брація, а таксама бралі за ўзор беларускія друкары Іван Фёдараў, Пятро Мсціславец і Грынь Івановіч, калі выдавалі свае кнігі ў Заблудаве, Львове, Вільні і Астрогу. Доўгія дзесяцігоддзі былі яны недасягальным узорам служэння Праваслаўнай Царкве і яе люду, знайшлі многіх паслядоўнікаў.

Памёр Скарына каля 1541 г. „Божай воляю дадзена было Беларусі мецць гэтыя кнігі — як ратунак духоўны ў цяжкія часы, — сцвярджаецца ў часопісе „Праваслаўная думка”, які выдае праваслаўная моладзь у Менску. — Вялікі талент і энергія былі дадзены слаўнаму сыну Полацка, каб несці духоўную асвету свайму народу, каб кожная душа выратавалася праз любоў Хрыстову, мір і згоду, каб свяціла слова лагоды і міралюбнасці ўсім нам”.

**МІКОЛА ГАЙДУК**

# ПАДНЯЦЦЕ КРЫЖА ГАСПОДНЯГА

*ТРАПАР, СПЕЎ 1.*

Збаў, Госпадзе, людзей Тваіх
і добраслаў наследдзе Тваё,
перамогу праваслаўным
хрысціянам
над супраціўнымі дай, і Тваім
Крыжам святым ахоўвай жыхарства
Тваё.

Гэтае свята ўшаноўваем 27 верасня (14.09. паводле старога стылю). Прычынай яго ўстанаўлення было адшуканне Крыжа, на якім быў распяты Хрыстос. Імператар Канстанцін Вялікі, адчуваючы вялікую пашану да Крыжа Гасподняга, вырашыў знайсці яго і паставіць храм на Галгофе і ў іншых святых для хрысціян месцах Палесціны. Думку аб адшуканні Крыжа вырашыла ажыццявіць яго маці, імператрыца Елена, якая з гэтай мэтай падалася ў 326 г. у Іерусалім. Месца распяцця Хрыста паказаў нейкі стары яўрэй. У гэтым месцы павінны былі знаходзіцца крыжы, бо згодна з абавязваючымі ў рымскія часы абычаямі, прылады смяротнага пакарання закопвалі на месцы яго выканання. Неўзабаве былі выкапаны тры крыжы і аддзельна таблічка з надпісам „Ісус Назар’янін, цар іудзейскі”. Каб вызначыць, які са знойдзеных крыжоў будзе Крыжам Гасподнім, згодна з радай іерусалімскага патрыярха Макара пайшлі ў дом адной хворай жанчыны і па чарзе прыкладалі да яе знойдзеныя крыжы. Калі дакрануліся да хворай трэцім крыжам, жанчына была ў цудоўны спосаб аздароўлена. У зваротнай дарозе сустрэлі пахавальнае шэсце і тады зноў дакрануліся, гэтым разам да цела нябожчыка, тым самым крыжам, які аздаравілі жанчыну. Памёршы ўваскрос, што было неабвержным доказам, што менавіта гэты крыж з’яўляецца Крыжам Гасподнім, на якім распялі Збавіцеля. Вестка аб гэтых цудоўных здарэннях маланкава разняслася па Іерусаліме і ваколіцах. Натоўпы народу прыйшлі на Галгофу, каб пабачыць гэты святы Крыж. Аднак многія людзі не толькі што не маглі дакрануцца і пацалаваць, але нават пабачыць яго. І тады патрыярх Макар пачаў падымаць Крыж уверх, каб усе вернікі маглі паглядзець на яго. З гэтага і ўзялася назва самога свята. Крыж Гасподні быў знойдзены ў перыяд Пасхі, і менавіта з 326 года гэтае свята ўшаноўвалі на другі дзень Уваскрэсення Хрыстовага. Калі 13 верасня 335 года адбылося пасвячэнне царквы Уваскрэсення Хрыста ў Іерусаліме, гэты дзень выпаў у суботу і тады Свята Узвіжання перанеслі на нядзелю 14 верасня, каб можна было быццам падвойна трыумфальна праспяваць „Кресту Твоему поклоняемся Владыко и Святое Воскресение Твое славим”.

У пачатку VII стагоддзя ў выніку пераможнай вайны персідскага караля Хазроя з візантыйскім імператарам Фокам, гэты першы заваяваў Іерусалім. У такі спосаб Крыж Гасподні трапіў у т.зв. персідскую няволю, у якой знаходзіўся да 628 года. Менавіта тады ў выніку мірнага пагаднення паміж імператарам Іркаліем I і наследнікам Хазроя — Сіраэсам Святы Крыж быў вернуты ў Іерусалім. Персы са страхам і пашанай аднесліся да гэтай вялікай хрысціянскай святыні і за перыяд прабывання ў іх Крыжа Гасподняга не толькі не ўчынілі на Ім ніякай шкоды, але нават не адчынілі скрыні, у якой Крыж знаходзіўся.

У Іерусаліме Крыж сустрэў сам імператар Іраклій, які боса і ў белай простай вопратцы ўнёс Яго ў Васкрасенскі храм. У сувязі з тым, што вяртанне з персідскай няволі адбылося 14 верасня, з 628 года ў той дзень сталі святкаваць Узвіжанне Чэснага і Жыватворнага Крыжа Гасподняга, упамінаючы гэтым самым і адшуканне Яго, і вяртанне.



У царкоўных спевах гэтага дня Крыж Гасподні называюць, між іншым: „славай анёлаў”, „пахвалой вернікаў”, „дзвярыма раю”, „прыстанішчам збавення”, „надзеяй хрысціян”, „усяго свету апекуном”, „сляпых настаўнікам, хворых аздаравіцелем, усіх памёршых уваскрэсеннем”, „зброяй неператоможнай”. Святая Царква навучае нас, каб цалуючы Святы Крыж, аднесціся да Яго са страхам і радасцю адначасна. Першае пачуццё — выраз нашых грахоў і нягоднасці. Радасць выклікае надзея на збавенне, якое дае свету распяты на Ім Хрыстос Бог. Крыж — гэта зброя і сімвал нашага збавення.

Апусканне і падыманне Крыжа ў дзень гэтага свята з’яўляецца сімвалам падзення Адама і нашага паўстання ў Хрысце з глыбінь пекла ў Каралеўства Божае, а таксама са смерці ў вечнае жыццё ў Богу.

Дзень Узвіжання Крыжа Гасподняга — гэта дзень посту, падчас якога нельга есці нават рыбу.

У той дзень прыхадскія святы адзначаюць у Фастах, Ялоўцы, Кузніцы-Беластоцкай, Нарве і Вярстку.

**С. Н.**

# ТАЛЕРАНТНАСЦЬ У КЕЛЬЦАХ І ВА ЎСХОДНЯЙ ПРУСІІ

Антон Садула, даследчык мінулага, жыве ў Лютрах (Ольштынскае ваяводства), дзе працуе настаўнікам. Раней жыў ён у Варшаве, пісаў рэцэнзіі на тэатральныя спектаклі, атрымаў вучоную ступень доктара гуманістычных навук Лодзінскага універсітэта. Пасля ваеннага становішча выехаў з Варшавы ў Лютры, і цяпер, замест тэатральнай крытыкі, займаецца даследаваннем мясцовага мінулага. У маладосці здарылася яму пабываць у Ракаве (Кялецкае ваяводства), які ў XVII стагоддзі быў буйным цэнтрам польскіх арыян. Арыяне аднак былі адтуль выгнаны, а ўсе іхнія здабыткі знішчаны. Нават фундаменты дамоў і мануфактур (а была там і паперня, і друкарня) былі разбураны. Гэтая жахлівая неталерантнасць пераможцаў у адносінах да іншаверцаў вельмі ўсхвалявала д-ра А. Садулу і ён, апынуўшыся на Варміі, заняўся даследаваннем гісторыі і матэрыяльнай спадчыны папярэдніх жыхароў гэтай зямлі. Дзейнічае ён у Камітэце выратавання даўніх могільнікаў. Напісаў таксама кнігу пра рэшткі даўняй мазурскай культуры на Варміі, дзе апісаў дарогі, масты, старыя прускія муры, ветракі і гаспадарчыя збудаванні. Мяне зацікавілі яго заўвагі адносна старых могілак, у тым і праваслаўныя, якія паўсталі пасля I сусветнай вайны. Як вядома, ва Усходняй Прусіі летам 1914 года вяла баі царская армія генерала Самсонава. Ад гэтах баёў асталіся тры расейскія могільнікі і два нямецкія. На адных з іх, на крыжы ёсць напіс: „Hier ruhen 117 russische Soldaten, 26-8-1914”. Могілкі гэтыя і крыжы былі пастаўлены немцамі пасля I сусветнай вайны. Яны дбалі, каб не загінула памяць не толькі пра сваіх, але і праціўнікаў.

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

# УРАЖАННІ З ВАНДРОЎКІ

**У днях 22—28 жніўня г.г. прайшла чарговая вандроўка сцэнічных калектываў „Балаган” з Беластока і „Жывое слова” з Менска.**
**Уражаннямі дзеляцца вандроўнікі.**



*Як цудоўна выступаць на сцэне... Марыся з "Балагану" і Ігар з "Жывога слова".*

Уражанні? Іх надта многа, каб пералічыць. Часта былі прыемныя, а некалі трэба было задумацца. Напэўна ў маім жыцці была гэта незвычайная падзея. Думаю, што ўсе тыя, што вандравалі, будуць крыху іншымі людзьмі. Калі мы, жываслоўцы, пераязджалі дзяржаўную мяжу, адзін мытнік, даведаўшыся пра нашыя намеры вандраваць, рассмяяўся і тады мне падумалася, што можа сапраўды будзе гэта нейкае глупства (я ўпершыню ехаў сюды). Цяпер я ўпэўнены, што такая вандроўка патрэбная. Хачу яшчэ прыехаць.

**Сяргей Пляскач — студэнт з Менска.**

Вандроўка — прыемная справа, асабліва калі два творчыя калектывы зліліся ў адзін. З „Балаганам” я сустрэлася ўпершыню і рада, што дух вандравання занёс нас на беластоцкую зямлю, этнічна беларускую. Тут добра сябе адчуваеш, калі сустракаеш цёплы прыём, калі размаўляеш з мясцовымі людзьмі на сваёй мове. Дзякуй вам за гэта, дарагія сябры! Да сустрэчы!

**Оля Кандрацюк з факультэта беларускай філалогіі.**

**ЦУДОЎНА!**
**Наташа Пшанічная — фак. бел. філ.**

Не ўяўляю сабе, каб больш не было такой вандроўкі.

**Сяргей Зянько — фак. рускай філ.**

Я ўжо трэці раз на вандроўцы па Беласточчыне. Тут вельмі гасцінныя людзі і прыгажэйшая зямля. Многа цікавага. Хачу прыехаць яшчэ раз.

**Алесь Жук — настаўнік гісторыі.**

Вялікі дзякуй Яну Морданю, Лене і Юрку Чарэнкам за такое мерапрыемства. Выдатна!!!

**Вадзім Дубоўскі — фак. бел. філ.**

Шкада, што так хутка мінае час вандруючым. „Мы яшчэ сустрэнемся з вамі...”

**Сяргей Скраблевіч — фак. прыкладной матэматыкі.**

Такія сустрэчы не знікаюць бясследна, а застаюцца агеньчыкам у душы, які саграваe ўсё жыццё. Я рада, што ёсць людзі аб'яднаныя святой ідэяй — вызвалення з пут.

**Оля Камок — фак. бел. філ.**

Я вандрую ўжо тут трэці раз і трэба прызнаць, што на гэты раз арганізацыя была самай лепшай. Вырас узровень мастацкіх выступленняў, як „Жывога слова”, так і „Балагану”. Вельмі цешыць, што мясцовыя жыхары гасцінна нас сустракаюць. А якія праблемы? Чамусьці Ян у Дубяжыне спяваў украінскія песні. Каб не прыйшлося ў наступным годзе шукаць на вандроўку калектыў на Украіне, бо што мясцовыя людзі скажуць на тое?

**Ігар Кортэль — настаўнік гісторыі.**

Дзякую за добрую справу. Асабліва падабалася гасціннасць гаспадароў у Дубне — бацькоў Ані Гуральчык.

**Сяргей Станкевіч — фак. бел. філ.**

Тое, што навыдумваў і ажыццявіў Ян, нельга падвесці пад крытыку. Увіце толькі: пешкам ісці дзесяткі кіламетраў з цяжкімі заплечнікамі, начлегі ў клунях, ды яшчэ выступаць кожны вечар. Страх падумаць, калі ў наступным годзе будзе інакш, або яшчэ горш і вандроўкі зусім не будзе. Што трэба з нашага боку — пастараемся выканаць. Праблемаў у арганізацыі не бачым. Да пабачэння праз год!

**Марына Скраблевіч і Сяргей Чарняк — пара студэнтаў.**

Трэцяя вандроўка з Янам і яго „Балаганам” па Беласточчыне — за намі. Развітваемся з надзеяй сустракацца зноў і зноў. Толькі каб надалей была атмасфера ўзаемнага даверу паміж намі ды адчуванне вартасці таго, што робім. Падчас вандроўкі мы перш за ўсё хваляваліся за якасць выступленняў, творчыя справы, узаемаадчуванне з публікай. Вельмі цешыць традыцыйная беларуская гасціннасць. Разумеем, што нялёгка даецца ладзіць такое мерапрыемства, тым больш, што амаль аднаму чалавеку, без дапамогі беларускіх арганізацыяў. Добра, што знаходзяцца прыяцелі, якія памагаюць фінансава і арганізацыйна.

Чаму мы супольна вандруем? Нам трэба змагацца за сваю справу не толькі прыстойнымі лозунгамі ды воклічамі ў вялікіх залах. Вядома, і яны патрэбныя, але як указальнікі накірунку. А на ніве трэба працаваць штодзённа. Інакш глеба ўродзіць хутчэй пустазелле, чым збожжа. „Жывое слова” і „Балаган” круглы год займаюцца сцэнічнай самадзейнасцю і падчас вандроўкі маем нагоду падсумаваць вынікі працы. Да новай сустрэчы!

**Лена і Юрка Чарэнкі — вядучыя тэатр „Жывое слова”**

Я не спадзявалася, што вандроўка будзе такой багатай і плённай. Словамі цяжка пераказаць мноства ўражанняў. Кожны дзень прыносіў новыя знаёмствы, сяброўства і карысці. „Жывому слову” ды „Балагану” пашанцавала на кіраўніцтва. Гэта людзі, якія ведаюць, што рабіць і ўмеюць гэта рэалізаваць. На вандроўцы многае пабачылі і шмат навучыліся. Мясцовыя жыхары падарылі нам шчырасць і зычлівасць сваёй душы. Вялікі дзякуй!

**Оля Карачун — студ. з Менска.**

Пасля мінулагодняй вандроўкі я з нецярплівасцю чакала гэтую. Зноў пераканалася, што такія сустрэчы нам усім вельмі патрэбныя. Тут на Беласточчыне цудоўныя людзі, чароўная прырода і цікавая спадчына. Шчыра дзякую ўсім, хто прычыніўся да нашага вандравання. Чакаю наступнай сустрэчы.

**Лена Гаўрыльчык — фак. бел. філ.**



*Вандроўка — прыемная справа.*



*— Нашых б'юць! — зароў п'яным голасам Ванька.*

Я ўжо трэці раз тут, і я шчаслівая, што заўсёды сустракаюць нас сардэчна. Прыемна адчуваць, што мы тут патрэбныя. Адчувалася задавальненне людзей у вёсках, калі мы выступалі, што не загінула беларуская мова, што жыве свая бацькаўшчына. Як добра, што ў тым ёсць і кропля майго ўдзелу.

Цяжкасці? Так, яны ёсць, але маем сілы адольваць перашкоды. Мы здольныя адрадзіцца як паўнацэнны народ. Будзем жыць, будзем сустракацца, будзем вандраваць!

**Света Арцяшук — аспірантка Інстытута літаратуры Акадэміі навук Беларусі.**

А што мне сказаць? Мушу прызнацца — цяжка даецца рыхтаваць вандроўкі. Але калі ёсць маладыя дзяўчаты і хлопцы, якія хочуць быць беларусамі, любяць роднае слова і сваю зямлю дык такое трэба рабіць. І калі яшчэ знаходзяцца людзі, якія на справе дапамагаюць, дык гэта магчыма.

Вандроўка адбылася дзякуючы фінансавай падтрымцы: Міністэрства культуры і мастацтва ў Варшаве ды наступных фірмаў: „Амега”, „Węgiel” з Бельска ды „Elvimex” з Беластока. У падрыхтоўцы вандроўкі дзейсна дапамаглі: Валянцін Гушч, Алесь Палескі, Дарафей Фёнік, журналісты „Нівы” і „Часопіса” і Марына Сідаровіч з Менска. Падчас вандравання гасцінна прымалі нас: Брацтва праваслаўнай моладзі ў Бельску (парафія Прачыстай Багародзіцы), калектыў „Бярозкі” ў Кнарыдах, жыхары вёскі Мокрае на чале з солтысам, настаяцель у Падбеллі — а. Мікалай Блізнюк, сям'я Шэрэтухаў і Рыгор Ляшук у Дубяжыне, калектыў „Красуні” ў Красным Сяле, сям'я Казлюка Івана с. Рыгора ў Шэшылах, сям'я Лявона Якімюка (солтыса) ў Нурцы, Ніна і Яўген Гуральчукі (бацькі Алі з „Балагану”) ў Дубне.

**Усім ім сардэчнае ДЗЯКУЙ!**

**ЯН МОРДАНЬ — вядучы „Балаган”**
**Фота Пятра Астасевіча**

# ВЫЙГРАЦЬ З АЗЕРБАЙДЖАНАМ

У былым Савецкім Саюзе, вядома, нявесела. Сям-там ужо рэжуцца. У Беларусі, дзякуй Богу, спакойна. Спакваля будуецца беларуская дзяржаўнасць, няхай сабе без межаў, арміі ды грошай. Адной з праяваў гэтай дзяржаўнасці з'яўляецца ўзнікненне беларускіх спартыўных інстытутаў. Паўстаюць зборныя Беларусі па розных відах спорту і дабіваюцца нават поспехаў, хаця крутыя павароты ў палітыцы не пакідаюць збоку і спартсменаў.

Такая, напрыклад, зборная юніёрак Беларусі па баскетболу не змагла дабрацца на паўфінальны турнір чэмпіянату Еўропы ў Іспанію, бо выдзеленыя ім на палёт з Масквы расейскія рублі ў выніку валютнай рэформы ў Расеі за адну ноч сталі нічога не вартымі паперкамі. Калі ўжо знайшліся новенькія рублі, у Маскве адмовіліся браніраваць авіябілеты чужаземцам. Дзяўчаты, якія мелі вялікі шанц на поспех у турніры, з плачам засталіся дома.

Ёсць усё-такі дзяржавы ў горшым, чымсьці Беларусь, становішчы. Дзякуючы гэтаму зборная (мужчын) Беларусі па валейболу дабілася першай у сваёй гісторыі перамогі... над Азербайджанам. Поспех не атрымаўся лёгка. Прайграўшы летась з Латвіяй беларуская каманда ніяк не магла пазбірацца. І тут з'явілася зусім нечаканая падмога: у Менск прыехаў Юры Сапега, гулец італьянскага клуба „Петрарка” з Падуі. Юры, пэўна, з князямі Сапегамі не мае нічога супольнага, але аказаўся сапраўдным арыстакратам духа (мабыць, натхніў яго дух Скарыны). Нягледзячы на тое, што бацькаўшчыну пакінуў падлеткам, адказаўся ад прапановы выступаць за зборную Расеі (сусветная суперліга!) і рашыў дапамамагчы беларускай камандзе. Мала таго, за свае грошы адзеў усю каманду ў форму фірмы „Champions”. Выступіць у гэтай жа форме з надпісам „Беларусь” на грудзях нашаму патрыёту не давялося. Арбітры не дапусцілі яго да гульні, бо не меў у пашпарце пячаткі, якая пацвярджала б яго не беларускае грамадзянства. За месяц побыту Сапегі ў Менску ніводзін з дзеячоў беларускага валейбола не паклапаціўся аб гэтай „дробязі”!

Тым не менш зборная Беларусі атрымала доўгачаканую перамогу. Тыя ж самыя дзеячы, што забыліся пра штампік у Сапегавым пашпарце, праявілі надзвычайную прадпрымальнасць у дыпламатычнай гульні на міжнароднай арэне. Хаця матч павінен быў адбыцца ў Баку, беларускі бок дабіўся ў Міжнароднай федэрацыі валейбола перанесці яго ў Менск па прычыне немагчымасці выезду зборнай Беларусі на месца спаборніцтва з увагі на сітуацыю ў Азербайджане. Усё прайшло, вядома, за спіной няшчасных азербайджанцаў, якія поўным ходам рыхтаваліся прымаць беларускіх гасцей.

Трэнер азербайджанцаў так пракаментаваў усё гэта: „Шчыра кажучы, думаў, што самыя хітрыя ў свеце людзі жывуць у нашай рэспубліцы, але пасля таго, як Міжнародная федэрацыя пайшла на павадку беларускіх функцыянераў, мой погляд рэзка змяніўся”.

*Паводле „Прэсбола” падрыхтаваў А.Л.*

# АВАНГАРДЫСТ НЕ ЗВАЖАЕ НА ЧУЖЫЯ ПОГЛЯДЫ

У 35 нумары „Нівы" Лёнік Тарасэвіч змясціў вельмі цікавы артыкул — рэпліку пра сёлетняе „Басовішча". Лёнік, з характэрнай яму бескампраміснасцю, прадстаўляе свой пункт гледжання на гэтую своеасаблівую культурную з'яву, якой ёсць „Басовішча". Ставіць пры гэтым многа пытанняў, якія ў агульным датычаць становішча беларускай культуры сёння, яе тоеснасці і дачынення да цяперашняй палітычнай сітуацыі. Форма артыкула — даволі вострая, а нат правакацыйная — нікога, хто ведае Лёніка і разумее, які характар культуры ён прапагандуе, не павінна здзіўляць. Лёнік падыходзіць да „Басовішча", як да мастацтва — адназначна авангардна. У авангардзе няма месца на сантыменты і разгляданне чужых рацыяў. Лёнік, як мастак, не можа дазволіць сабе на рэфлексію, бо ён дзейнічае і стварае, а не ацэньвае і апісвае.

Такі актыўны ўдзел Лёніка ў „Басовішчы" вельмі гэту імпрэзу ўзбагачае. Я асабіста, вельмі рады, што Лёнік пасля перыяду накіравання найбольшай часткі сваёй энергіі на развіццё ў жывапісе, вярнуўся назад у больш папулярны нурт і займае ў ім цяпер такую культуратворчую пазіцыю, з такім моцным уздзеяннем на маладых.

Тым болей здзіўляе мяне і расчароўвае адказ Лёніку галоўнага рэдактара „Нівы" Геніка Мірановіча. Генік узяў сабе і проста па-дзіцячаму пакрыўдзіўся, ды яшчэ горш, паставіўся ігнарантна да ўсяго, што Лёнік сказаў. Піша ён: „Я ніколі не паверыў бы, што мастак сусветнага маштабу ёсць аўтарам гэтых радкоў..." Чытачу, значыць, трэба гэта разумець так, што Лёнік напісаў такія глупствы, што праводзіць з ім палеміку шкада часу і паперы. Такім чынам, рэдактар абражае не толькі Лёніка, але таксама і мяне, чытача. А ў далейшым нейкім чынам пацвярджае Лёнікаў тэзіс пра сённяшнюю кандыцыю рэдакцыі „Нівы".

Паважаныя сябры журналісты, чытачы вельмі добра бачаць, што вашыя высокія інтэлектуальныя магчымасці не выкарыстоўваюцца. Бачаць, што вашыя адносіны да працы абыякавыя, што няма ў вас „іскры", няма духу, няма творчай сілы і бадзёрасці. А самае дрэннае тое, што калі Лёнік абазваў вас „камуністамі" (усе добра ведаем, што не палітыку меў на ўвазе Тарасэвіч), адказам аказаўся быць такі павярхоўны тэкст вашага новага галоўнага рэдактара.

**ВАЛІК СЕЛЬВЯСЮК**

**Ад рэдактара:**

Валік Сельвясюк піша, між іншым, што дзейнасць Лёніка Тарасэвіча мае адназначна авангардны характар, далей паясняе, што ў авангардызме няма месца на разгляданне чужых рацыяў. Выкарыстоўваючы гэтыя тэзісы, можна было б толькі спытацца: які тады сэнс прадстаўляць свае рацыі?

Але гэта сапраўды было б ігнарантства. Таму — па чарзе. Недзе ў палове ліпеня ў Гарадку — як ужо большасці чытачам нашага тыднёвіка вядома, адбыўся рок-фестываль „Басовішча". Хаця былі там прысутныя амаль усе журналісты „Нівы", я запрапанаваў напісаць рэцэнзію з фестывалю нашаму сябру з Менска, музыказнаўцы, супрацоўніку рэдакцый „Культуры", „Крыніцы" і „Літаратуры і мастацтва" Уладзіславу Ахроменку. Рашыў так не таму, што ўсе мае калегі — гэта лянівая, скамунізаваная маса, якая не разбіраецца ў авангарднай культуры (яны ж у мінулых гадах былі арганізатарамі „Басовішча"), але таму, што ў іх надта эмацыянальны падыход да фестывалю, якога былі яны стваральнікамі. Мне была патрэбная прафесіянальная рэцэнзія, напісаная чалавекам звонку.

Артыкул У. Ахроменкі з увагі на форму запісу і змест рэдакцыйны калектыў ацаніў вельмі станоўча. Я з прыемнасцю ўпісаў яго ў план друку. Ахроменка, аднак, не ведаў нашага мясцовага фальклору. Калі тут пра касцьці пішаш, абавязкова мусіш яго хваліць і захапляцца яго дасягненнямі. Не дай Божа змясціць штосьці, што можа выклікаць сумненне, або ёсць крытычным аналізам асобы ці ўстановы. Тады застаешся ворагам на ўсё жыццё або і яшчэ даўжэй. І не важнае, ці пішаш пра чалавека якому 20, 40 ці 55 гадоў, ці гэта будзе паштовы чыноўнік, „заслужаны дзеяч" ці стваральнік культуры — усе яны рэагуюць аднолькава, а менавіта не пераносяць ніякай крытыкі. Кожны, хто працуе журналістам у „Ніве" сто разоў ужо мог пераканацца, што з нашым селянінам няма жартаў. Да канца сваіх дзён будзе ён памятаць усе свае прэтэнзіі, крыўды і жалі. Такую памяць маюць хіба толькі народы братняй Югаславіі. Але адкуль ведаць мясцовы менталітэт маладому чалавеку з Менска?

Паводле мяне — тут ніжэйпадпісанага — Уладзіслаў Ахроменка мае права на сваё бачанне свету, свае погляды і на іх выказванне — таксама, як Валік Сельвесюк, Лёнік Тарасэвіч, Яўген Мірановіч і ўсе іншыя. Ігнараванне гэтага права лічу нічым іншым, як толькі адначасным вяртаннем тае формы авангардызму, якая была так папулярнай сярод нашых старэйшых пакаленняў. Прашу толькі не зразумець мяне дрэнна, я не разглядаю сучаснае вяртанне да традыцыі продкаў у катэгорыях „дабра і зла", а толькі сцвярджаю, што такі факт мае месца.

Ахроменка, пішучы пра рок-фестываль напісаў тое, што чуў і бачыў. Гэта яго суб'ектыўнае ўспрыманне таго, што адбылося падчас ліпеньскіх вечароў каля Гарадка. Свае ўражанні прадставіў, нікога не абражаючы. Палеміку Л. Тарасэвіча прачытаць мог таксама кожны. Наш сябра даказвае, між іншым, што змяшчаючы артыкул Ахроменкі ў „Ніве" я далучыўся да загавору з удзелам урада Рэспублікі Беларусь, яе надзвычайнага пасла ў Польшчы, беластоцкай паліцыі і польскай прэсы, накіраванай супраць беларускай культуры, а асабліва яе двум стваральнікам — Сакрату Яновічу і Лявону Тарасэвічу. Мае права Славуты Мастак на свае меркаванні і такія ж высновы, але маім — як рэдактара — абавязкам лічу толькі даць яму магчымасць прадставіць іх. Не бачу аднак ніякага абгрунтавання, каб весці палеміку і даказваць, што кот не ёсць рыбай, ці наадварот.

Паводле Валіка Сельвясюка, у авангардыстаў „няма месца на сантыменты і разгляданне чужых поглядаў". Калісьці авангардысты называліся інакш і мелі някепскую арганізацыю. Быў такі час, што амаль у кожнай беларускай вёсцы дзейнічаў гуртнок авангардыстаў. Я не чуў яшчэ пра такога, хто б адважыўся весці з імі палеміку. І не лічу, што на сённяшні дзень ёсць нейкая сіла, якая магла б супрацьставіцца авангарднай хвалі, якая пераліваецца цераз нашу зямлю. Тым больш няма сэнсу, каб рабіла гэта „Ніва", пазбаўлена „іскры" і „духу".

А тое, што Валік Сельвясюк пачуўся абражаным, лічу яго прыватнай справай: мае ён права абражацца, калі хоча і на каго хоча. Ведаю таксама адаго нашага чытача, які абразіўся на „Ніву" за тое, што не надрукавалі мы яго артыкул, якога ён яшчэ не напісаў. Але гэта ўжо крайняя форма авангардызму.

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

# ВОСЕНЬСКІ НАСТРОЙ

☛ *Працяг са стар. 1*

У гэты момант здавалася, што шчасце -- памерці так, у адну хвіліну, на месцы, дзе яна нечакана спынілася, і цяжкі, цягавіты сум адначасова цісну на сэрца, бо шчасце немагчыма. Здавалася, сэрца не вытрымае болю -- сціскаецца, пляжыцца, як гумавае, а разарвацца не здольна. І тут барвова-жоўты кляновы лісток, плаўна апускаючыся, крануўся твару і пальцаў долу. Уся яе млосная кулажвасць, шчасце смерці і сум па ім у адно імгненне зніклі, нават не пакінуўшы па сабе шкадавання. Яна падумала: не, яна не памрэ. Нават калі прыйдзе час, не памрэ, бо людзі -- дрэвы. Вось клён. Сам ён -- душа, а ягонае лісце -- цела. Лісце паміраe, дрэва застаецца. Так і чалавек: пасля смерці матэрыяльнае цела разбураецца, а душа застаецца, менавіта застаецца. Значыць і яна, Альжбета, не памрэ...

Раней яна ажывала толькі вясной, адну яе любіла. А зараз адчувала, што любіць жыццё ўвогуле. У гэтым годзе ўсё змянілася для Альжбеты. Ёй цяпер няма патрэбы выдумляць сябе, стварыць герояў свайго мройлівага, уяўнага жыцця, трызніць падзеямі, якіх наяве не было, але жылі ў яе ўройным свеце. Цяпер яна жыла гэтым жыццём, героі існавалі ў рэчаіснасці, і сама змянілася, стала амаль такою, якой бачыла сябе ў марах, трызненнях і снах. Яе дзве асобы, якія прысутнічалі ўнутры, нарэшце злучыліся і перамагла тая, што была схаваная ў асабістай, нябачнай іншаму воку, прасторы. О так, яна жыве! Наяве і насапраўднаму. Жыццё прыйшло даяе, таму што прыйшло... Каханне. І сёння ў скверы пасля таго аслупянення, якое там на яе найшло, калі апрытомнела, Альжбета адчула моц, непадробнасць і святасць таго пачуцця, якое валодала ёю ўвесь апошні час, але якога яна не разумела і толькі шукала адказаў на тое, што з ёю робіцца. Зараз жа яна ведала, што гэта не простая раптоўная ўлюблёнасць, а тое, што надараецца вельмі рэдка і што пранясеш усё жыццё незалежна ад таго, спраўдзяцца мары ці не. Альжбета дзівілася сабе, што ніяк не магла знайсці тлумачэння таму, што з ёй адбывалася, што не адчувала сябе нават закаханаю, а гэтае праявілася цяпер нечакана і самым дзіўным чынам. Таму ў яе з'явілася ўражанне, быццам яна трапіла ў пастку, хоць бязвольную і турботную, але прыемную. І гэтая пастка -- акаляючае жыццё, у якім Альжбэта сыграе сваю ролю...

Якраз паказалася восеньскае сонцасканара, прабіўшыся бляклымі промнямі праз густое, зацятае хмарамі неба. А паружавеўшая, з вясёлым агеньчыкам у вачах і раскудлачанымі пасмачкамі валасоў, што выбіліся з-пад чырвонай шапачкі, Альжбета са светлым паглядам і ледзь стрыманаю шчырай усмешкай ішла насустрач людзям і Сусвету...

**ЮЛІЯ АЛЕСЬНІНА**






*МІРА ЛУКША*

**ДАРОГА**

Сыпле каліна
Калінавыя кроплі
У каляіны,
Тлустыя ад алею.
Конь памалу ідзе,
Глядзіць уніз
З натугай;
Слядоў шукае?
(Даўно тут коні
Не хадзілі?)
А, можа,
Калінавыя слёзы
Лічыць?
Воз за спіной
Яму
Падскоквае
Няроўна,
У гнаянках
Асака,
Каса
Ды Іван, дзед.

* * *

Быў час
збіраць камяні.
Час зерне класці
ў раллю,
сперазання поўных снапоў
для чужых.
І далі яму свае
грошык у дамавіну.

*ЛЮДМІЛА РУБЛЕЎСКАЯ*

* * *

У гэтым грэшным свеце,
На гэтай злой зямлі
Мы сеем, сеем вецер
Па снежнае раллі.

Над посудам нямытым,
Над стосамі папер
Я болей — не палітык,
Хутчэй — загнаны звер.

Спакой такі няпэўны,
А свет — такі глухі,
Што крыку не пачуюць
Ні людзі, ні багі.

На вуліцы, ў кватэры —
Зіма, зіма, зіма.
У буру вырас вецер,
І сховішча няма.

* * *

Мне сумна было і страшна.
І пахла лімонам кухня.
І я знайшла запальнічкі —
І ў цемру ўвайшоў агонь.
А я праз вакно зірнула —
Анёлы абселі дрэва,
І ў доўгіх белых кашульках
Гайдаюцца на галлі.
Смяяліся ўсе анёлкі,
Як дзеці — тонка і хітра.
Глядзелі ў сляпыя вокны —
Кім людзі робяцца ўночы.
Падскоквалі ўсе анёлкі
На пругкіх мокрых галінках,
Смяяліся і спявалі,
Смяяліся — і жылі.
Між тым агеньчык так прагна
Таненькую еў запалку,
Што хутка крануў за пальцы
Забылівую гаспадыню.
Я войкнула — на падлогу
Бязважна ўпаў вугалёк.
Я зноў у акно зірнула —
А там — расцвілі каштаны.
Каштан пад вакном красуе,
Люляе кветкі свае.

*ВІКТАР ШНІП*

* * *

І ўжо насыпана ў віно атрута,
І па душу з-за хмар ляціць анёл.
Ты ў вечны свет адыдзеш без пакуты,
На развітанне абхапіўшы стол.
А твой забойца за сталом суседнім
Віном частуе маладых дурніц.
Ён служка князёў, ён не любіць бедных,
Тым больш такіх, што ўмеюць Край любіць
І заклікаць да змагання з князем.
Забойца вольным лічыць сам сябе,
Ды ён у князя найвялікі вязень,
Шчэ большым стане ён, чым больш заб'е.
Ён па-майстэрску забівць умее,
Заплаціш больш — заб'е гаспадара.
Ён змагаром зусім не разумее,
Хоць сам з сябе ён творыць змагара.
А ты сядзіш, перад табой атрута.
Ты будзеш піць, бо ты прыйшоў, каб піць.
Ты не схацеў дурных багаццяў груды,
Ты не схацеў рабыню палюбіць.

# ЯК Я СТАЎ ЯЗЫЧНІКАМ

Працяг са стар. 1

дзэробнай пачалі выходзіць нейкія „дзікуны”.

Чакаючы здымкаў, мы сядзелі ў зале і глядзелі тэлебачанне. Госці Паляўнічага дома вельмі падазрона і трывожна спаглядалі на нас і доўгі час не здагадваліся, хто такія гэтыя „камедыянты”.

Раптам нехта са статыстаў запрапанаваў схадзіць у рэстаран „Іва” выпіць піва. Вядома, не ішло тут аб само піва, але рэакцыю афіцыянтак — пералякаюцца яны, ці не? Пайшлі амаль усе мужчыны. Я астаўся, бо зарыентаваўся, што порткі не трымаюцца. Зайшоў я ў гардэробную папрасіць англійскую шпільку. Бо што б атрымалася са здымкаў, калі б мне нечакана ссунуліся нагавіцы?! Гардэробшчыца паглядзела на мяне і вырашыла, што пераапране мяне ўсё-такі ў іншае адзенне. Праз пару хвілін я перамяніўся ў звычайнага язычніка.

У „Іве” „дзікуноў” ніхто не пералякаўся, але смеху было ўдоваль. Калі хлопцы вярнуліся ў Паляўнічы дом, мы ўсе адправіліся аўтамабілем на месца здымкаў. Знаходзілася яно побач лясного пасялення Звярынец, што побач шашы Гайнаўка — Белавежа. Паміж дубамі стаялі татэмы — чэрапы зуброў і ласёў (дарэчы, пазычаныя ў Прыродазнаўчым музеі). Красаваўся і Светавіт, выразаны ў тоўстай калодзе дрэва Іаанай Кшэмінскай. Навокал месца, дзе меў гарэць касцёр, паўкладвалі тоўстыя дубовыя галіны. Усё гэта асвятлялі юпітэры. Вобраз, сапраўды, быў вельмі чароўны, цікавы, можна сказаць — незабыўны!

Той, хто меў аказію глядзець, як выконваюцца кіназдымкі, ведае, што шмат пры гэтым мітусні, і, абавязкова, трэба быць цярплівым. Прыселі мы тады на дубовых калодах і чакалі, калі будзем патрэбны рэжысёру. Менш-больш пасля гадзіны падрыхтоўкі пачалі здымаць першую сцэну. У ёй прымалі ўдзел Лех Вільчэк, дарэчы, вядомы фатограф і мастак, і Вольга Чурыла, таксама паўсюдна вядомая ў Белавежы з-за сваёй незвычайнай працавітасці жанчына. Перад тым, як пачала працаваць кінакамера, завялася дыскусія, як бабуся Вольга мае трымаць рукі на трысніцы. Закончыла спрэчку сп. Кшэмінская, прапануючы, каб бабуся ўзяла трысніцу так, як звычайна гэта робіць!

Адбыліся пробныя пераезды кінакамеры перад „артыстамі”. Л. Вільчэк меў у той момант разьбярыць па дрэву. І, вось, кінакамера, рухаючыся па рэйках, ужо сапраўды працуе. Вільчэк працягвае руку па нож убіты ў калоду і... не можа яго выцягнуць! Мацуецца нервова, але ўсё-такі выцягвае. Калі ўжо кінакамера спынецца, мастак выцірае пот з ілба, бо так моцна перажыў гэтую неспадзяванку. Усе смяюцца з яго. Сцэна паўтараецца яшчэ некалькі разоў — на ўсялякі выпадак! Гэтак робіцца пры ўсіх здымках. У сваю чаргу пачынаюцца клопаты са штучным дымам. Вецер дзьмухае не ў той бок, у які трэба. Рэалізатары нервуюцца, а нам яшчэ адна нагода да смеху.

Згаданая сцэна адбываецца ля кастра, але яго не падпальваюць. Водблескі агню на тварах акцёраў памочнікі рэжысёра „робяць” штучна, пры дапамозе г. зв. „блендаў”, прасцей гаворачы — бліскучай бляхі, якой трэба ўвесь час варушыць, ловячы святло юпітэраў і накіроўваючы яго на твары статыстаў.

На плане паяўляюцца няпрошаныя госці — шэршні. Іх прывабіла святло юпітэраў. Усе пачынаюць махаць рукамі. Адзін шэршань укусіў у палец памочніка апаратара, Кшыштафа Комара. „О, шэршань укусіў Камара”, — заўважыў нехта. Але хлапцу не да смеху. Баліць і палец пухне ў вачах.

Наканец рыхтуецца другая сцэна. Пры калодзе, апрача Л. Вільчэка і В. Чурылы, месцы займаюць пенсіянер Барыс Валкавыцкі, другі мастак — Лех Навацкі і малады столяр Міраслаў Вашкевіч. На гэты раз здымкі ідуць больш спраўна, хаця надалей маем клопаты са штучным дымам. Тым часам хтосьці злавіў вельмі цікавага жука. Паявілася думка выкарыстаць яго ў сцэне. Пасадзілі мы жука на зубрыны чэрап і калі кінакамера „пайшла”, жук хутка злез з чэрапа і накіраваўся на галаву Л. Навацкага. Той не стрымаў ад смеху і сцэна правалілася.

Мы не паспелі агледзецца, калі стала ўжо за поўнач. На здымачным плане аб'явілі перапынак. Частуюць нас бутэрбродамі і чаем. Падсілкаваўшыся, Вольга Чурыла зацягвае на ўсю пушчу беларускую песню пра зязюлю. Апладысменты чуваць галасней за песню. Пажылыя статысты пачынаюць драмаць. Л. Вільчэк заснуў, абапёршыся на кучу паленаў, падрыхтаваных для кастра. Развінулася яму на нагах ануча. Дацэнт Сімона Косак жартуе, што яе сябар выглядае, як нейкі сібірак або бурлак. Сама яна пераапранулася за дзяўчыну.

Падчас перапынку памочнікі рэалізатараў мяняюць план — інакш укладваюць галіны. Занятку пры гэтым шмат. Як лепш і хутчэй перарубаць калоду падказвае ім В. Чурыла. Усе здзіўляюцца жыццёвай дасведчанасці гэтай пажылой жанчыны.

У чарговай сцэне патрэбны ўсе статысты. Сядзяць яны вакол кастра, які на гэты раз падпальваюць. Грымiроўшчыца нанава пудрue нам твары. Праходзячы побач Л. Вільчка, заўважае яна, што ў яго надта чыстыя рукі. Той ўзрадавана адказвае: „Ну, сказалі вы мне камплімент! Мне яшчэ ніхто ў жыцці не сказаў, што ў мяне надта чыстыя рукі. Звычайна людзі гавораць іншае”. Усе смяюцца.

Касцёр шугае полымем. Кінакамера на гэты раз ездзіць за плячыма „язычнікаў”. Яна накіраваная на агонь, у які „дзяўчыны” — І. Кшэмінская і яе цётка С. Косак, і В. Чурыла — кідаюць нейкія зачараваныя зёлкі. Ядловец кідае „хлапец” — навуковы працаўнік Нацыянальнага парку, Анджэй Кэчыньскі. Гэтая сцэна прадстаўляе элементы язычніцкай абраднасці.

Неміласэрна пячэ ўсіх у твар жар з вогнішча. Рэжысёр крычыць, каб апаратар Крыст'ян Матысэк не набліжаўся занадта да кастра з кінакамерай, бо крышталікі ў аб'ектыве палопаюць. Той, у перапынках, засланяе апаратуру нейкім пледам! Усе „гараць”, асабліва пры збліжэннях твараў, калі рэжысёр, штораз падлівае ў агонь дэнатурат з патэльні. Найбольш выносліваой аказалася, а як жа... бабуся Вольга.

Пасля гэтых здымкаў, Ян Валенцік дзякуе ўсім статыстам за працу і... цярплівасць. На плане просіць астацца мяне і „рыцара” Станіслава Куявяка, у сапраўднасці дырэктара Белавежскага асяродка культуры. Мы яшчэ патрэбны для рэалізацыі апошняй сцэны. Усіх астатніх аўтамабілем адвозяць дамоў.

У сцэне з намі прымае ўдзел таксама рэжысёр. Ён перад кінакамерай гаворыць некалькі сказаў, якія запісвае яго жонка. У той жа момант непадалёку, у Звярынцы адзываецца сабака, затым на шасе пачынаюць вуркатаць аўтамабілі. Што ў той час адчуваў рэжысёр, няцяжка было здагадацца з яго твару.

І так закончыліся здымкі „ночы яцвягаў”. Дамоў вярнуўся я на світанку. Доўга стаяў мне ў вачах вобраз той незабыўнай ночы. Дзеля гэтага варта было недаспаць.

**ПЁТР БАЙКО**
**Фота Бажэны Валенцік**




# ВАЙСКОВЫ САЮЗ БЕЛАРУСІ З РАСІЯЙ

**ЧАСТКА XII**

Большасць грамадзян Рэспублікі Беларусь, да якіх я звяртаўся з пытаннем адносна ацэнкі імі ідэі вайсковага саюза Беларусі з Расіяй, пацiскалі плячыма, а некаторыя з іх адказвалі, што гэта не „іх розуму справа”. Былі і такія, якія лічылі, што ўрад і кіруючыя краінай колы лепш ведаюць, што маюць рабіць, бо ведаюць розныя, звязаныя з гэтай праблемай, факты. Параўнаўча, невялікі працэнт запытаных меў на гэтую справу свой погляд і ахвотна даваў ёй ацэнку. Вось гэтая апошняя катэгорыя размоўцаў найбольш мяне і цікавіла. Сёння прыведу выказванне прыблізна дваццацігадовага студэнта, які досыць шырока прадставіў свой пункт гледжання на ідэю вайсковага саюза Беларусі з Расіяй.

„Я малады, як бачыце, чалавек і не абцяжараны чужымі поглядамі на ўсе палітычныя і непалітычныя праблемы нашай краіны. Самі ведаеце, што маладыя людзі стараюцца мець свае ўласныя ацэнкі ўсяго, што акружае нас у жыцці. Вядома і тое, што маладыя стараюцца, каб тое, што яны думаюць і гавораць было іншым ад таго, што думаюць і гавораць прадстаўнікі старэйшага пакалення.

Па-першае, я — энтузіяст паклікання да жыцця незалежнай беларускай дзяржавы і веру ў яе будучыню. Пакуль што, як самі ведаеце, маладой Рэспублікай Беларусь кіруюць старыя посткамуністычныя сілы. Зразумела, што гэтыя сілы не могуць усяліць у беларускі дзяржаўны арганізм новы дух. Сілаю інерцыі будуць яны вяртацца да старых скампраметаваных метадаў кіравання. Сённяшнія кіруючыя беларускія колы знаходзяцца пад прэсінгам „адвечнай традыцыі” кроўнай сувязі з Расіяй. Вынікам гэтага прэсінгу з'яўляецца ідэя ваеннага саюза Беларусі з Расіяй.

Па-другое, і гэта вы таксама, мабыць, бачыце, усе слаі беларускага грамадства моцна русіфікаваныя і таму кожная ідэя беларуска-рускай повязі будзе знаходзіць падтрымку з боку многіх беларусаў. Ці гэта значыць, што беларускі народ гатоў нагамі і рукамі, а таксама сэрцам падтрымаць ідэю вайсковага саюза — я не ведаю. І тут даходзім да істоты справы. Нашы палітыкі ў першы перыяд незалежнасці моцна падкрэслівалі ідэю нейтральнасці Беларусі. Зараз гэтыя самыя палітыкі загаварылі аб саюзе. Сведчыць гэта аб тым, што яны памянялі сваю пазіцыю. Чаму? Тлумачэнне можа быць толькі адно. Знаходзяцца яны пад прэсінгам Масквы. Гэта значыць, што старыя постсавецкія нормы пачынаюць ізноў урывацца ў наша жыццё.

Па-трэцяе, і гэта не таямніца, існуе ў нас Беларускі народны фронт, які рашуча адкідвае ўсякае супрацоўніцтва з Расіяй, бачачы ў ім пагрозу для суверэннасці Беларусі.

Зразумела, што адзіным выхадам з такой сітуацыі быў бы ўсенародны рэферэндум, у якім народ выказаў бы сваю волю. Як вядома, беларускае грамадства масава галасавала за захаванне Савецкага Саюза. Як захавалася б беларускае грамадства ў справе ваеннага саюза Беларусі з Расіяй, я не ведаю. Думаю, што беларусы са сваёй памяркоўнасцю былі б і супраць крайніх камуністычных, чыкінскіх і супраць пазнякоўскіх экстрэмальных прапаноў. Выбіралі б нейкую залатую сярэдзіну.

Больш акрэслена магу сказаць аб студэнцкім асяроддзі. Студэнты ў большасці былі б супраць ваеннага саюза Беларусі з Расіяй. Датычыць гэта не толькі беларускамоўных, але і рускамоўных студэнтаў. Студэнцтва бачыць пагрозу такога ваеннага саюза не толькі для сябе асабіста, але і для ўсёй беларускай нацыі. Такі саюз моцна адсунуў бы ў часе атрыманне Беларуссю поўнай незалежнасці. Я і мае сябры ў ніякім выпадку не хацелі б знайсціся ў такой сітуацыі, якая б прымушала нас пакінуць Беларусь і змагацца за беларускія інтарэсы Бог ведае дзе і Бог ведае чаму”.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**




## ПАРТЫЗАНЫ, ЦІ ДУРНІ?

Нельга прамаўчаць цікавы нарыс сп. Юрыя Каліны п. з. „Прызабытыя партызаны”, які друкаваўся на старонках 33-га і 34-га нумароў „Нівы”. Публікацыя гэта адкрывае нам яшчэ адну, ахутаную маўчаннем, старонку нашай гісторыі пра змаганне сваіх герояў і негерояў (бо былі таксама жулікі і прайдзісветы) за вызваленне беларускага народа ад сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту. Падзеі нарыса адбываюцца ў маіх старонках у перыяд складаных гістарычных абставін, калі паламаліся старыя аковы зняволення. Галоўны герой нарыса, Герман Шыманюк — Скамарох, скалаціў партызанскі атрад, які налічваў каля 200 розных людзей; былі тут і героі, і звычайныя лайдакі ці зладзюжкі. Мэты дзеяння атрада і яго палітычнай арганізацыі „Брацтва сялян беларусаў” былі высакароднымі і мелі прыметы асаблівага гераізму. Калі мая маці вярнулася ў 1921 годзе з расейскага бежанства, сустрэла на радзіме, так як і іншыя людзі, адну бяду і голад і таму, як дзіця, хадзіла некалькі разоў у Грабавец да сям'і Шыманюкоў і ніколі не вярталася дамоў з пустымі рукамі, бо, як цёпла ўспамінала, Шыманюкі былі добрымі і спагадлівымі людзьмі. Герман Шыманюк быў у тым часе заняты нейкімі справамі, бо заўсёды сядзеў з алоўкам у руцэ ў другім пакоі за сталом, заваленым нейкімі дакументамі і нешта чарціў на паперы. Брат Германа, Павел, палітыкай бадай не займаўся. Неўзабаве паліцыя даведалася пра палітычную дзейнасць Германа і вымушаны ён быў уцякаць з дому і скрывацца недзе ў лесе. Напад на кляшчэлеўскі пастарунак лічу не гераізмам, а хутчэй бандыцкім актам, так як і смерць уласніка тамашняй карчмы. Атрад Скамароха, хаця меў і свае высакародныя мэты, не атрымаў масавай падтрымкі ў народзе і распаўся; як гаворыцца — „супраць ветру не падуеш”.

У атрадзе Скамароха служыў і жыхар Дубіч-Царкоўных — Андрэй Тамашук і, як гавораць старэйшыя, быў гэта „нарваны” малады хлопец. Меў ён дар паэзіі і складаў вершы на мясцовай гаворцы; некаторыя з іх і сёння ўспамінаюць нашымі людзьмі, асабліва вострыя зачэпкі па мянушках некаторых аднавяскоўцаў. Як даведваемся з нарыса, 21-гадовага Андрэя злавілі і, пасля ваеннага суда, расстралялі. Перад смерцю, як апошнюю сваю волю, напісаў ён ліст сваім бацькам, у якім поўнасцю адракаецца ад свайго мінулага і каецца за свае грахі. Ліст гэты перахоўвае брат Андрэя, Агафон, які жыве ў Гайнаўцы (цяпер ён цяжка хворы).

Як бачым, многія „героі” з атрада Скамароха заламаліся, ці гэта перад смерцю, ці пасля следчых допытаў. Тым болей, калі не было разумнай канцэпцыі, а „геройства” было куплена за літоўскія і нямецкія грошы. Дарэчы, немцы падтрымлівалі многіх загаворшчыкаў, у тым ліку і Леніна і за іх маркі куплена і бальшавіцкая рэвалюцыя ў 1917 годзе.

У нарысе гаворыцца, што некаторых партызан Скамароха паліцыя злавіла ў Белавежскай пушчы. Аднак брат Андрэя Тамашука, Мікалай, калісьці гаварыў мне асабіста, што Андрэя злавілі недзе каля Беластока, калі ён і яго сябры-партызаны ехалі фурманкай. Вёз іх нейкі паляк пад дулам іхніх пісталетаў. Праўдападобна солтыс вёскі, з якой быў фурман, паведаміў паліцыю і з Беластока прыехаў асобы атрад і зрабіў аблаву. Было гэта раніцай, бо ішоў акурат статак быдла і партызаны разбегліся сярод гэтага статка, але іх паліцэйскія схапілі. Не ведаю, чыя праўда; ведаю толькі, што бацьку Андрэя — Тараса яшчэ перад гэтым паліцыя мучыла, прыпякаючы пяты распаленай цэглай. Стары не вытрымаў і павёў паліцыю ў зямлянку штаба атрада ў Белавежскай пушчы, была яна аднак пустая, бо партызаны паспелі ўцячы.

Герману Шыманюку і некаторым яго партызанам удалося ўцячы ў Савецкую Беларусь, але там памагатыя Сталіна расправіліся з імі чыста па-савецку, прысвоіўшы ім званне ворагаў і шпіёнаў: кулю ў лоб, а хутчэй у патыліцу.

Герман Шыманюк быў дваюрадным братам маёй маці. Маю яго здымак з яго другой жонкай, зроблены ўжо ў Беларусі. На адвароце здымка напісана па-беларуску: „На памяць дарагому дзядзьку Пятру. Герман”. А Пётр Чыквін — гэта таксама дзядзька маёй маці. І хаця Германа Шыманюка і яго партызанаў можна называць па-рознаму, аднак след, які яны пакінулі ў гісторыі, лічу гонарам.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

# Зорка
## старонка для дзяцей

З вучнёўскай творчасці

### ВОСЕНЬ

Адыходзіць Лета залатое,
Праменнямі сонца радаснае.
Прыходзіць пара халодная,
Плачучая дажджамі,
Прасторная вятрам.
"Восень" -- людзі называюць,
Ды Лета не забываюць!

ЮРКА БУЙНЮК,
Малінікі



*Васьмікласнікі з ласінкаўскай школы сур'ёзна думаюць пра сваю будучыню.*
Фота М. Лукшы

### ХМАРКІ

Сустрэліся на небе дзве хмаркі. Адна -- чорная, цяжкая -- ляцела на поўнач. Другая -- шэрая, больш лёгкая -- ляцела на поўдзень.

-- Сасупі з дарогі! -- сказала чорная хмарка.

-- Не, ты сасупі! -- сказала шэрая.

-- Я вельмі спяшаюся, не магу чакаць, -- запярэчыла чорная.

-- А я таксама спяшаюся, -- сказала шэрая.

Так яны стаялі ў паветры і спрачаліся, а тым часам два вятры - паўночны і паўднёвы -- усё бліжэй і бліжэй падштурхоўвалі іх насустрач адна адной.

Раптам хмаркі стукнуліся: трах! І з'явілася маланка.

-- Аб чым спрачаецеся? -- запыталя яна.

-- Мне не саступаюць дарогу, -- сказала чорная хмарка, -- а я спяшаюся.

-- І я спяшаюся, -- сказала шэрая.

-- Я вельмі спяшаюся!

-- А я яшчэ больш!

-- Саступі з дарогі!

-- Не саступлю!

-- Хопіць вам спрачацца! -- спыніла іх маланка. -- Хіба ж так вырашаюцца спрэчкі? Наладзьце спаборніцтва. Хто прайграе, той і з дарогі саступіць. Згодны?

-- Згодны! -- у адзін голас адказалі хмаркі.

-- Тады зробім так. У вас у абедзвюх багата вады. Выліце яе на зямлю. Хто выльe больш, той і пераможа.

-- Але ж зараз ноч, -- сказалі хмаркі, -- як убачыш, хто больш выліў вады?

-- А я свяціць вам буду, -- адказала маланка, -- а мой брат -- гром -- лічыць будзе, а заадно і вас крыху патрасе, каб вады не засталося. Раз, два -- пачалі!

І паліўся на зямлю цёплы шчодры дождж.

Чорная і шэрая хмаркі стараліся з усіх сіл. Буйныя кроплі дажджу звінелі па шыбінах акон, дробным шротам стукалі па дахах дамоў, шапацелі ў кронах дрэў і булькалі ў лужынах. Паміж пругкіх і празрыстых струменяў то тут, то там бліскала маланка. Прыпадаючы да зямлі, яна глядзела, колькі ж там налілося вады, з якой хмаркі больш. Гром строга сачыў, каб хмаркі аддалі зямлі усё.

Дождж ішоў да самай раніцы, пакуль вада з хмарак не вылілася. З апошняй кропляй у наваколлі запанавала цішыня. Хмаркі глянулі на адну і... здзівіліся. Яны не пазналі сябе. Гэта былі ўжо не хмаркі, а два белыя лёгкія воблачкі.

-- Ха-ха-ха! -- далёкім рэхам, схаваўшыся за лесам, рагатаў гром.

Хмаркі яшчэ раз зірнулі адна на адну, на свае адлюстраванні ў лужынах і таксама засмяяліся. А цёплы ветрык падхапіў іх і панёс далёка-далёка, услед за громам і маланкаю.

СЯРГЕЙ ТАРАСАЎ

*СПІРЫДОН ВАНГЕЛІ*

### ЛЕГЕНДА ПРА БЕЛАГА БУСЛА

Калі напалі туркі на малдаўскую зямлю, малдаване схаваліся ў крэпасці. А туркаў была процьма.

-- Што будзем рабіць? -- спытаў атаман Хынку. -- Можа здадзімся на літасць ворага?

-- Не, -- адказалі праўнукі Стэфана Ваяводы. -- Абаронім свой дом, свой род. Не станем на калені! Лепш загінем.

Няшмат было іх, храбрацоў, але сталі яны грудзьмі супраць процьмы туркаў. Дапамагалі ім жанчыны, нават дзеці стралялі з лукаў.

Не маглі ворагі ўзяць крэпасць штурмам, аблажылі яе да восені.

І вось настаў час -- скончылася вада, няма чаго есці абаронцам крэпасці...

Аднойчы высока ў небе яны ўбачылі белую птушку. Турэцкія стрэлы распорвалі неба, але птушка праляцела паміж імі і апусцілася на крэпасную сцяну.

-- Бусел! -- узрадаваліся воіны і тут убачылі ў яго дзюбе вінаградную гронку.

Паляцеў бусел, але хутка вярнуўся, прынёс яшчэ адну гронку, яшчэ, яшчэ, яшчэ...

Адчулі акружаныя прыліў сіл, і іхнія стрэлы дажджом абрушыліся на ворага.

Адступілі туркі. А Хынку-атаман гнаў іх да самай граніцы.

### ПЕЧКА Ў РУКАВІЧЦЫ

Пад раніцу снег перастаў. Ударыў мароз. Холадна Жэарджэлу, але нічога не зробіш -- трэба ісці ў школу. Сабраўся Жэарджэл і пайшоў.

-- Рып-рып... -- рыпіць пад валёнкамі снег.

-- Жэарджэл, -- сказала наўздагон маці, -- ты ж свае печкі забыўся.

Яна дагнала сына і паклала яму ў кожную рукавічку па печанай бульбіне, каб рукі не замерзлі. Да школы ж ісці далёка.

Пайшоў Жэарджэл далей.

Рып-рып... Снег рыпіць, мароз усё мацней, а хлопчыку цёпла -- печкі рукі грэюць.

Ідзе сабе Жэарджэл, раптам бачыць: стаіць на дарозе Жэарджэта. Дрыжыць ад холаду.

-- А ў мяне дзве печкі ёсць, -- сказаў ён.

-- Дзе?

-- Дык вось яны, у рукавічках, -- засмяяўся Жэарджэл і аддаў адну печку дзяўчынцы.

*Пераклалі з малдаўскай Юрый Коваль і Валерый Бабей*

*МІРА ЛУКША*

### ПЛАЧ ПУШЧЫ

А самотны Лясун не можа
заснуць:
Праз рэдкае голле трымціць
веташок.
Лясун мякка песціць сухую кару
Ды туліць шкадобна траву і
пясок...

Дзе птушачка ціўкне і дзе ветрык
дыхне,
Дзе кветка духмянай расой
захлынецца,
Дзе зорка пакоціцца і ў чорнай
вадзе
Нязбыўнаю марай у друз
разаб'ецца...

Ты, роднае дрэва і родны валун...
Ён тут не сіротка, не бедны
бяздомак!
А што ж, калі з неба шугае агонь,
Зрабіць яму ў вечным, гібеючым
доме?!

Злое ліха нам спальвае вусны...
Сохне лес, смягне гай, бор
галосіць!
Ломяць рукі бярозы і сосны
І лісточкі балящь, дыхаць
просяць...

### ТАЛІСМАН АЛІНКІ

Зялёнае шкельца мне бабуля
дала,
А яна яго, быўшы дзяўчынкай,
знайшла.
Свет тады быў у агні, была вайна,
А бабулька сіроцінаю расла.

І глядзела цераз шкельца на
зямлю,
Бачыла зялёнымі і неба, і вайну,
Зялёныя дарогі, ў руінах дамы,
Людзей самотных, гора і дымы...

І гэты скарб даю вам -- скромны
падарунак.
Некаштоўная цацка -- ў суме
паратунак.

### НАЧНОЕ НЕБА

Над зямлёю схілілася ціхая, сіняя
ноч,
У абдымкі ўзяла шчаслівых,
вясёлых і бедных.
Зоркі буйныя сыпле, бы перлы, з
заплаканых воч.
Знічкі гаснуць -- багацця ў іх,
што ў грошыках медных!..

Хто падыме з зямлі, хто
пацешыць свой зрок,
Хто схавае на сэрцы, хто
наступіць -- не ўбачыць...
Бо ёсць вочы, якія не ўмеюць
угледаца ў змрок,
У неба вечнае -- думак свет ды
дом мараў дзіцячых.

### ПАДАРУНАК ЛЕСУНА

Даю вам кветку дзівасіл,
Каб вы набралі моцы, сіл,
Каб вам не страшны быў ні цар,
Ні злодзей, ліха, ні пажар,
Каб вашы думкі ў свет свяцілі,
А з сэрцаў, што мячамі білі
Выліўся новы волат-чар --
Паэта, майстар і ваяр.
Яшчэ ён сёння ёсць дзіцём,
Ён паратуе і мой дом!
Ён паратуе родны дом!

*(Вершы з п'есы "Дзівасіл")*

**БЕЛАРУСКІЯ НАРОДНЫЯ ГУЛЬНІ**

## ВОЎК І АВЕЧКІ

Выбіраюць пастуха і ваўка, усе астатнія ўдзельнікі гульні -- авечкі. Пастух ходзіць каля авечак і пяе:

*-- Пасу, пасу авечачкі*
*Каля быстрай рэчачкі.*
*Воўк за гарою,*
*Я за другою.*
*Ваўка не баюся,*
*Палоўнікам адбаранюся.*

Прыходзіць воўк і кажа пастуху:

-- Пастух, пастух, а табе бацька купіў гадзіннік залаты. Я папасу авечак, а ты схадзі паглядзі.

Пастух ідзе. У гэты час воўк крадзе авечку. Вяртаецца пастух, бачыць, што няма адной авечкі. Ён пяе:

*-- А мне бацька гадзіннік не купіў,*
*Воўк авечачку схапіў.*

Калі воўк пацягне ўсіх авечак, пастух ідзе шукаць іх. Ён угляда-ецца ў зямлю і гаворыць:

-- Тут воўчы след, тут авечы, тут воўчы след, тут авечы...

Прыходзіць пастух да ваўка. Авечкі ў гэты час ляскаюць зубамі. Пастух пытаецца:

-- Што ў цябе такое робіцца?

-- Кросны ткуцца.

-- Дай мне палатна.

-- Нельга.

-- Ці прабягалі тут мае авечкі?

-- А якія яны?

-- Сівенькія.

-- Пабеглі па сівенькай дарожцы.

Пастух прыходзіць да ваўка ў другі раз. Авечкі ў далоні плешчуць.

-- Што гэта ў цябе шуміць?

-- Бліны пякуцца.

-- Дай мне блін.

-- Гарачы.

Так паўтараецца некалькі разоў. Нарэшце пастух запрашае ваўка ў лазню. Воўк доўга адмаўляецца, бо яму, бачыце, дровы не падыходзяць. Але калі выбера ён дровы, пачынае мыла выбіраць. Потым прыходзіць воўк у лазню, а там авечкі сядзяць з пастухом. Яны накідваюцца на ваўка і тармосяць яго.

## АДГАДАНКА



*Спалучы цыфры ад 1 да 70 і ўбачыш, хто на малюнку.*



## МАЛЮНКІ ШКОЛЬНІКАЎ




*ЭДЗІ АГНЯЦВЕТ*

**БЕРАЖЫ ЗЯМЛЮ І НЕБА!**

Нам цёпла ў свеце дабрыні:
Тут сонца матчынай усмешкі,
Аблокі ў сіняй вышыні,
Мурашніка жывыя сцежкі.

І хто ж не любіць ясных дзён?
Спявае жаваранак шчыра,
Званок вясны усім чуцён.
Мы -- дзеці дружбы,
мы -- дзеці Міру!

Іскрыцца колерамі свет
Вясёлак, берасцянак, мяты.
...Ды ў кожным доме ёсць партрэт
Забітага вайной салдата.

І просяць дзеці ўсёй зямлі,
Алесі, Патрыкі, Індзіры,
Каб людзі неба зберaглі.
Мы -- дзеці дружбы,
мы -- дзеці Міру!

І самі будзем берагчы
І кожны кут,
і кожны лісцік --
Ад цемры вечнае начы,
Адкуль няма нікому выйсця.

Няхай збіраюць пчолы мёд,
Вінтоўкі будуць толькі ў ціры!
Сябры, ідзіце ў карагод!
Мы -- дзеці дружбы,
мы -- дзеці Міру!

## БАБІНА ЛЕТА

*(міфы і рэчаіснасць)*

Залатая восень... Якіх толькі трапных эпітэтаў і метафар не прыдумалі паэты і пісьменнікі, каб найбольш яскрава ахарактарызаваць гэтую пару года. Нават зацяжныя дажджы або густыя раніцнія туманы не здольны затрымаць моцнай плыні развітальных сонечных праменняў на зямлю -- прыходу бабінага лета. Працягласць гэтага перыяду, як і пачатак яго, у розныя гады бывае розным.

З навуковага пункту гледжання бабіна лета -- першы асенні перыяд з устойлівым антыцыклонічным надвор'ем, калі начное астуджэнне глебы і паветра яшчэ не вельмі моцнае, а дзённы прагрэў хоць і адчувальны, але не такі, каб успрымаўся як спякота. Звычайна гэты перыяд цягнецца ў нас адзін-два тыдні і наступае, як правіла, пасля асенняга раўнадзенства. 23 верасня Зямля паварочваецца да Сонца паўднёвым паўшар'ем. Сонца, перасякаючы нябесны экватар і пераходзячы ў паўднёвую сферу, пасылае развітальнае цяпло на зямлю. Дасягнуўшы нагрэтай за лета зямлі, гэтая плынь цяпла і дапамагае ёй некаторы час процістаяць наступаючаму холаду.

Шмат ёсць легенд аб павуціне, што лятае ў пару бабінага лета. Вось адна з іх. Маці Ісуса Хрыста Марыя спрабавала сшыць перададзеную ёй вешчунамі пялюшку для сына. Але як толькі яна дакранулася іголкай да пялюшкі, вецер вырваў нітку і панёс. І колькі не спрабавала Святая Марыя працягваць нітку з іголкай праз пялюшку, яна вырывалася і адлятала.

А праз некалькі гадоў, калі Святая Марыя плакала каля распятага на крыжы Сына, ніткі, якія калісьці вырваліся з яе рук, сабраліся з усіх канцоў свету і, абвіўшыся вакол крыжа, утварылі выратавальную мяккую тканіну. З-пад яе пачуўся голас: "Мама, мама, навошта ты імкнешся змяншыць мае пакуты? Ніткі Прасвятой Дзевы, пакіньце мяне і ідзіце закрываць гора чалавечае". З таго часу і носяцца (лятаюць) гэтыя ніткі па ўсяму свету з усходу на захад восенню пасля 21 верасня (дня нараджэння Багародзіцы Марыі). Кожны з нас бачыў іх -- гэта асенняе павуцінне.

**А. МАКАРЭВІЧ**

*ГРАФІНЯ ДЭ СЭГЮР*

## ЗАЧАРАВАНАЯ ХАТКА (3)

*КАЗКА*

*(Працяг з папярэдняга нумара)*

Разалі прагна ўтаропіла вочы, але ў хатцы было цёмна, і яна нічога не магла разгледзець. А са змроку да яе зноў даляцеў танюткі голас, які сказаў:

-- Дзякуй, Разалі, я абавязаная табе сваёю свабодай.

Голас, здаецца, ішоў ад зямлі. Разалі зірнула долу і заўважыла ў куце пару бліскучых маленькіх вачэй, якія глядзелі на яе з насмешкай.

-- Удалася такі мая хітрасць, -- сказаў танюткі голас, -- ты паддалася сваёй цікаўнасці. Каб я не спявала ды маўчала, ты, напэўна, вярнулася б назад і мне быў бы канец. Але цяпер, калі ты мяне вызваліла, -- і ты, і твой бацька, вы абое будзеце ў маёй уладзе.

Разалі яшчэ не разумела ўсяго няшчасця, якое ўтварыла сваім непаслушэнствам. Але яна здагадалася, што перад ёй нейкі вельмі небяспечны вораг. Менавіта таму яе бацька трымаў яго пад замком. Яна хацела хутчэй выйсці з хаткі і зачыніць за сабою дзверы, але танюткі голас крыкнуў:

-- Стой, Разалі, цяпер ты ўжо не здольная трымаць мяне ў гэтым брыдкім вязенні. Я ніколі з яго не выбралася б, каб табе споўнілася пятнаццаць гадоў.

У тое ж імгненне хатка знікла, і ў руках у перапалоханай Разалі застаўся толькі маленькі ключык. Яна ўбачыла перад сабой шэрую Мыш, якая глядзела на дзяўчынку сваімі бліскучымі вочкамі і смяялася танюткім траскучым галаском.

-- Хі-хі-хі! Якая ты спалоханая, Разалі! Далібог, мне вельмі смешна на цябе глядзець. Якая ты малайчына, што была такая цікаўная! Ужо амаль пятнаццаць гадоў я сядзела ў гэтым брыдкім вязенні і не магла зрабіць нічога кепскага твайму ненавіснаму бацьку і табе. А цябе я таксама ненавіджу, бо ты ягоная дачка!

-- Але хто вы, злосная Мыш?

-- Я вораг тваёй сям'і, мая любачка! Мяне завуць Мярзотная Варажбітка, і можаш паверыць, мне нездарма дадзена такое імя. Усе ненавідзяць мяне, і я ненавіджу ўсіх. І цяпер, Разалі, я буду хадзіць за табой паўсюль.

-- Адчапіцеся ад мяне, мярзотная Мыш! -- крыкнула Разалі. -- Вы ўсё роўна мяне не спалохаеце. І я ўжо як-небудзь прыдумаю, як ад вас пазбавіцца.

-- Гэта мы пабачым, мая любачка! Куды б ты не пайшла, я не адстану ад цябе ні на крок.

Разалі кінулася да дома, але кожны раз, азіраючыся, бачыла, што Мыш подскакам бяжыць следам і толькі крыху пасмейваецца. Калі дзяўчынка дабегла да дома, яна хацела раздушыць Мыш дзвярмі, але колькі яна ні старалася, дзверы не зачыняліся, і Мыш спакойна ўвайшла ў дом.

-- Ах ты нягодніца! -- сярдзіта і спалохана крыкнула Разалі. -- Ну, пачакай!

Яна схапіла дзяркач і хацела была моцна выцяць ім Мыш, але дзяркач раптам успыхнуў і апаліў ёй рукі. Дзяўчынка выраніла яго і ледзьве паспела адкінуць нагой у камін, каб не загарэўся ўвесь дом. Тады яна зняла з агня поўны вару кацёл і выкуліла яго на Мыш. Але кіпень ператварыўся ў смачнае свежае малако, і Мыш пачала яго хлябтаць, прыгаворваючы:

-- Якая ты добрая, Разалі! Мала, што вызваліла мяне, дык яшчэ так смачна частуеш!

Бедная Разалі горка заплакала. Яна зусім не ведала, што рабіць, калі раптам пачула бацькавы крокі.

*(Працяг у наступным нумары)*

# "НІВА" ПЕРАПРАШАЕ

У апошнім часе на гэтай старонцы нашага тыднёвіка мы змяшчалі праграму Беларускага тэлебачання. З невядомых для нас прычын ў гэтым тыдні мы не атрымалі з Менска факса з праграмай.

Чытачоў "Нівы" шчыра перапрашаем і надзеемся, што ў будучыні такіх непрыемных неспадзяванак не будзе!

**Рэдакцыя**

ЗЁЛКІ-ЛЕКІ

# ОЙ, ТЫ СЕЯЛА, ТЫ СЕЯЛА ЛЯНОК

Бадай, адным з самых старажытных культурных раслін, вядомых чалавеку з няпамятных часоў, з'яўляецца лён. Археалагічныя раскопкі сведчаць аб тым, што народы Егіпта і Індыі ўмелі вырабляць лён ужо два з паловай тысячагоддзі таму назад і шырока выкарыстоўвалі гэты надзвычайны дар прыроды.

На нашай планеце налічваецца каля 300 відаў ільну, а ў Беларусі і ў Польшчы ён здаўна лічыўся адной з найбольш любімых раслін. Пра яго беларускі народ спяваў у сваіх песнях, складаў легенды і паданні. І не дзіўна. Калі хтосьраніцай выйдзе на ўскраіну поля, не зможа адарваць вачэй ад неабсяжнага мора блакітных пялёсткаў цвітучага ільну. Шкада толькі, што надта далікатныя гэтыя пялёсткі: толькі выгляне сонца — яны хутка скручваюцца, прыціскаюцца да зямлі.

На працягу дзесяткаў стагоддзяў лён з'яўляецца лідэрам сярод раслін, якія выкарыстоўваюцца з прамысловымі мэтамі. Нездарма ў перакладзе з лацінскай „лён" абазначае „карыснейшы". З валокан даўгунца вырабляюць ніткі, якія ідуць на падрыхтоўку розных тканін — ад тоўстай тканіны на выраб мяшкоў да самага тонкага батысту і карунак. З семені ільну вырабляюць рэдкае масла, якое служыць сыравінай для атрымання пакосту, фарбаў, парфюмерных вырабаў.

Лён звычайны (*Linum usitatissimum* L.) сёння ў нас не сутракаецца ў дзікім стане. Вырошчваюць яго не толькі ў нас, але і ў многіх іншых краінах свету.

Насеннем ільну з'яўляецца шарыкападобны мяшочак, у якім амаль як правіла знаходзіцца 10 бліскучых зярнят карычневага колеру. Даўжыня іх — да 6 мм, а таўшчыня — 1 мм.

Ужо здаўна льняное семя знаходзіла прымяненне ў медыцынскай практыцы. Калі лён даспявае, збіраюць цэлыя расліны, сушаць іх на паветры і малоцяць. Атрымліваюць сыравіну — насенне ільну (*Semen lini*).

У семені ільну знаходзіцца вялікая колькасць бялковых рэчываў, тлустага масла, слізі, а таксама арганічныя кіслоты, ферменты, вітамін А, гліказіды. Упамінанні пра лён можна сустрэць у старых манускрыптах Егіпта, у лячэбніках тыбецкіх лекараў, у „Изборнике великого князя Святослава Ярославича", які выйшаў у свет у канцы XI стагоддзя, а таксама ў славутым „Каноне медыцынскай навукі" Авіцэны.

Насенне ільну найчасцей выкарыстоўваюць сёння як слізістую сыравіну пры язвах страўніка ці дванаццаціперснай кішкі, паколькі пры гэтых хваробах паяўляецца празмерная колькасць вельмі кіслага страўнікавага соку. Вадзяныя экстракты з нераздробленага насення (халодныя ці цёплыя — у выглядзе адвару), якія прымае хворы, пакрываюць тонкім пластом слізістую абалонку глоткі, страўніка і часткова дванаццаціперснай кішкі, ахоўваючы іх перад шкоднымі субстанцыямі.

Набухшае ў вадзе насенне ільну прымяняюць пры хранічных запорах, асабліва атанічных, якія ідуць у пары з празмернай паўнатой, а таксама выкарыстоўваюць яго пры артэрыясклерозе.

Раздробленае насенне, размешанае з вадой, можна прымяняць у якасці змякчаючых кампрэсаў на нарывы.

Ільняны алей прымяняецца перш за ўсё знешне. Ёсць, аднак, данясенні, што ў некаторых пацыентаў, хворых на рассеяны склероз, заўважана паляпшэнне стану здароўя, калі яны прымалі ўнутрана па 60—100 г ільнянога алею ў дзень.

Што датычыць знешняга выкарыстання, дык з яго робяць розныя мазі і крэмы, якія прымяняюць пры апёках І і ІІ ступені, пры лушчэнні і лопанні скуры, пры прышчах, алергічнай высыпцы і свярбенні скуры. Прафілактычна змазваюць гэтым скуру ў немаўлят, каб не чырванела.

### АДВАР З НАСЕННЯ ІЛЬНУ

2 лыжкі нераздробленага насення ўсыпаць у 1—1,5 шклянкі летняй вады. Пераліць у адпаведны посуд і варыць на невялікім агні пад пакрыўкай 15 мінут. Астудзіць і працадзіць. Можна дадаць чайную лыжачку фруктовага сіропу або 2—3 кроплі мятнай налійкі. Піць па паўшклянкі 2 разы ў дзень паміж ядою як лякарства, ахоўваючае страўнікавы тракт.

### ЭМУЛЬСІЯ З НАСЕННЯ ІЛЬНУ

Раздробніць 1—2 лыжкі насення і заліць 1/2—2/3 шклянкі летняй вады, фруктовага соку, кефіру ці ёгурту. Паставіць на 30—60 мінут. Піць раніцай і вечарам на працягу 2—4 тыдняў пры запорах. Можна таксама растаўчы насенне ільну ці змалоць у міксеры або 1—2 лыжкі насення падпражыць на патэльні і есці з соллю або змешанае з павідлам, джэмам ці мёдам.

### КАМПРЭСЫ З НАСЕННЯ ІЛЬНУ

50 г раздробленага насення заліць 1/4—1/2 шклянкі гарачай вады і дакладна перамяшаць. Закіпяціць, паставіць на некалькі хвілін. Тады загарнуць у палатно і прылажыць цёплае пад цыраткай на хворае месца.

**ЭСКУЛАП**

# ДЗІКІ СЕКС

Пяцідзесяцігадовы Анатоль хваліўся ўсім, што надта ж умела кахацца. Ну, проста так дагодзіць кожнай, што тая будзе памятаць усё жыццё.

У той вёсцы жыла кабета, якая не грэбавала мужчынамі. Да яе часта прыязджала сяброўка-гараджанка, і яны разам балявалі. Мужыкі казалі, што Райка і яе сяброўка Зінка надзвычай таленавітыя ў каханні.

-- Ну-ну, каб я да іх дарваўся, то хіба прасіліся б, каб адпусціў! -- рагатаў Анатоль.

Аднойчы Анатоль ехаў на працу на веласіпедзе. Перад сваім домам стаяла Райка з Зінкай. Запрасілі паразмаўляць. Гутарка пайшла, вядома, аб паўлітры і каханні. Анатоль не быў супраць. Выпілі, закусілі. Анатоль з Зінкай пайшлі ў другі пакой.

Ледзь Анатоль дакрануўся да кабеты, дык страціў імпэт. Узлавалася Зінка: "Райка, што за інваліды ў вашай вёсцы?! Я тут толькі час трачу!" Схапілі бабы вядро вады, хлюснулі на бедалагу!

Вярнуўся Анатоль дадому.

-- Што гэта з табою? Ты яшчэ не на працы? А чаму ж ты такі мокры?! -- залямантавала жонка.

-- Гэта, Золька, праз цябе! -- ускіпеў Анатоль. -- Як ты карову ўчапіла? Сарвалася з ланцуга, ледзь не злапаў, ганяўся па лугах, як дурны, уваліўся ў роў!..

Вядома, пайшлі плёткі. Людзі смяяліся з Анатоля, але той упарта ўсім казаў, што ўсё гэта Райка-німфаманка выдумала, бо ён жа і нагой у яе хату не ступіў!

**АЎРОРА**

# ВЕР-НЕ-ВЕР

Астронку! У мяне здарылася бяда. Неспадзявана захварэў мой малодшы брат. Хвароба невылечальная. Не магу знайсці сабе месца. А напярэдадні гэтай трагічнай весткі снілася мне і маёй сям'і вось такое.

Пачну ад мужа. Яму найперш прысніліся бацька і маці (яны ўжо нябожчыкі), а пасля прысніўся калега-нябожчык, з якім разам быццам нешта аглядалі на рабоце, выконвалі нейкую супольную працу. Раніцай ён расказваў мне гэты сон з нейкай трывогай, а нават страхам.

На наступны дзень мне прыснілася мая мачыха, таксама нябожчыца. Нават не памятаю, як, але сон мяне вельмі занепакоіў.

А да таго ўсяго раніцай гэтага дня пазваніла мая дачка, якая паехала да сваякоў у іншы горад, і кажа, што прысніўся ёй страшны сон пра бацьку. Быццам бы ён пайшоў у трупярню і прасіў там нейкага лекара, каб даў яму марфін.

А на другі дзень быў той страшны тэлефон. І больш нам такія сны не сніліся (значыць, пасля таго, як мы атрымалі вестку, а мінуў ужо тыдзень). Скажы, Астроне, ці гэта магчыма, што такія сны нам сніліся на гэта няшчасце. Бо мне прынамсі так здаецца. Але ж ты, здаецца, пісаў, што нябожчыкі ў сне абазначаюць спакой і доўгае жыццё.

**НАДЗЯ**

Так, Надзечка, але не ў гэтым кантэксце. Тут яны, бадай, нічога добрага не прадвяшчалі. Адны клопаты, боль, небяспеку. Так што, лічы, ты, на жаль, угадала.

**АСТРОН**

# КУХОННЫЯ ПАЯДЫ

*З МАНАСТЫРСКАЙ КУХНІ*

### ХАЛАДЗЕЦ З БАРАВІКОЎ

Прадукты:
*35 дэкаў свежых баравікоў,*
*1 л вады на адвар,*
*2 лыжкі жэлаціну;*
*для соусу:*
*жаўток,*
*1 лыжачка гарчыцы (муштарды),*
*5 дэкаў алею,*
*соль, перац і вінны воцат.*

Ачышчаныя баравікі зварыць у пасоленай вадзе, адцадзіць (адвар захаваць), дробна пасячы. У 1/2 шклянкі гатаванай вады распусціць жэлацін. Праз паўгадзіны, калі жэлацін дастаткова набракне, уліць яго ў астуджаны адвар з грыбоў і падаграваць на невялікім агні, не дапускаючы да таго, каб ён закіпеў, пакуль жэлацін не распусціцца. Заліць грыбы адварам, астудзіць, уставіць у халадзільнік.

Да халадца падаць соус, падрыхтаваны з вышэй пададзеных прадуктаў.

**ГАСПАДЫНЯ**

# ВІРАВАНКА

1. ільнянае валакно, 2. горад на Віцебшчыне, 3. планета, 4. пленарнае пасяджэнне, 5. ніжні край сукенкі або спадніцы, 6. дакучлівае злакавае пустазелле, 7. гаручая вадкасць, 8. спосаб, прыём, 9. матрос, які добра ведае мясцовыя ўмовы плавання, 10. італьянскі фізік, які збудаваў першую гальванічную батарэю, 11. частка тэлефоннага апарата, 12. капіталіст.

**(Ш)**

1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

Адказ на віраванку з 32 н-ра: жара, ружа, журы, жарт, жаба, мяжа, сажа, важ, жыта, пляж, ложа, жвір.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць: **Мікалай Сазановіч** з Навінаў-Вялікіх (Гажоўскае ваяводства) і **Рыгор Гайдук** з Беластока.

Ніва

"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1994 r. upływa 20 listopada 1993 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał wynosi 52 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką do końca br. wynosi 6000 zł., a kwartalnie - 78000 zł., a od 1.01.1994 r. — odpowiednio 7000 zł. i 91000 zł. (jeżeli nie zdrożeją koszty wysyłki pocztą). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

*АМБРОЗ БІРС*

## СА „СЛОЎНІКА Д'ЯБЛА"

**Радыкалізм** — заўтрашні кансерватызм, які займаецца сённяшнімі справамі.

**Разважаць** — узважваць магчымасці на вазе жаданняў.

**Размова** — кірмаш дробных разумовых якасцей чалавека, на якім кожны прадавец так заняты сваім таварам, што абсалютна не заўважае іншых.

**Рыфма** — лагодная канцоўка радкоў у вершах, па большасці дрэнных. Рыфмай вершы адрозніваюцца ад прозы, па большасці нудной.

**Рэалізм** — мастацтва апісваць прыроду з пункту гледжання рапух, маляваць краявіды з пункту гледжання крата, пісаць раманы з пункту гледжання чарвяка.

**Рэальнасць** — мара звар'яцелага філосафа. Ядро вакуума.

**Рэлігія** — дачка Надзеі і Страху, якая тлумачыць Невуцтву прыроду Непазнавальнага.

**Рэцэпт** — пісьмовая здагадка лекара аб тым, што з найменшай шкодай для пацыента прадоўжыць яго хваробу.

**Самотны** — у дрэннай кампаніі.

**Сапраўды** — магчыма.

*З англійскай пераклаў Алесь Кудраўцаў*






*Малюнак Ю. Рыжыкава*

## СМЕХ У САНАТОРЫІ

Вяртаецца дамоў муж ад лекара.
— Скажы, дарагі, што табе ён прыпісаў? — пытае жонка.
— Казаў мне піць многа вады.
— Вось чалавек без сумлення! Атрымаў каньяк, а табе кажа піць ваду!

* * *

— Ці часта ўміраюць хворыя на гэтым аддзеле? — пытае хворы ў лекара.
— Толькі адзін раз.

* * *

Да хворага прыехала хуткая дапамога.
— Што вас турбуе? — пытаецца лекар.
— Ужо трэці дзень нічога не ем.
— Прыпішу вам сродак на паправу апетыту.
— Гэта непатрэбна, пане доктар, апетыт у мяне добры, турбуе мяне тое, што ежы бракуе!

* * *

У басейне пры бальніцы для псіхічна хворых топіцца адзін пацыент. У ваду ўскаквае другі і ратуе першаму жыццё.
— Вашы паводзіны паказваюць, што вы здаровы, можаце вяртацца дамоў. На развітанне хачу аднак сказаць дрэнную навіну: чалавек, якому вы выратавалі жыццё, павесіўся ў туалеце.
— Гэта я яго павесіў, каб высах.

* * *

Лекар, пасля дакладных агледзін пацыента, ставіць дыягназ:
— У вас бранхіт. Ці можаце сабе дазволіць даўжэйшую пабыўку над морам?
— Чаму не, я — матрос.

* * *

— Колькі плачу за вырванне зуба?
— 300 тысяч злотых.
— Чаму так многа? Вы ж на пачатку ўспаміналі пра 100 тысяч.
— Сваім крыкам вы напалохалі двух пацыентаў у чакальні.

* * *

— Ты што, Ваня, дастаў па губе і не адрэагаваў?
— Вядома, адрэагаваў.
—Як?
—Спух.

**Сабраў АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

### РЭСПУБЛІКАНСКІЯ ЧАРЫ

Ну хто не верыць з вас у чары?!
О! Чары — дзіўныя пачвары.
Яны — жывуць па ўсёй зямлі,
У лесе, небе і ў Крамлі.
І ўжо ніхто іх не баіцца,
Бо з імі нават лепей спіцца.
Але ж такое вам прысніцца,
Што часам у вачах траіцца!
Аж рот адкрыеш у здзіўленні,
Бо пішуць: Ленін — шызафрэнік,
А Берыя — зусім не Юда,
Яго прадаў Хрушчоў, паскуда...
Таварыш Брэжнеў — быў не пан
І нат Чурбанаў — не чурбан.
А Гарбачоў, ці, скажам Ельцын —
Яны — народныя умельцы,
Умеюць кошыкі вязаць —
На рынку можна прадаваць.
Напэўна, скажуць: „Вось дзівак!
Мо штосьці з розумам не так?
І дзе ён гэтага набраў?"
.................................
А я „Рэспубліку" чытаў.

**ГЕНАДЗЬ ЮРЖЫЦ**

(„Рэспубліка" — менская газета на беларускай і рускай мовах, заснаваная Саветам Міністраў РБ)

## МІЖ НАМІ

### ЗАБЫТАЯ ТРАДЫЦЫЯ

-- На вяселлі Міхала разбілі шэсць аўтамашын!
-- Пэўна, шафёры былі п'яныя!
-- Не. Тут забытая традыцыя вінавата.
-- Якая?
-- Калісьці, калі маладая ехала да маладога, "гарадзілі" дарогу. Рабіла гэта моладзь, і трэба было даваць выкуп. І тут дзеці даведаліся пра гэтую традыцыю, загарадзілі дарогу. Першы самаход затармазіў, а наступныя і бухнулі ў яго. Вось, бачыш, да чаго даводзіць няведанне народнай традыцыі!

### ДАВЕДАЛАСЯ

-- Ведаеш, Алёна, што твой муж нарабіў?
-- Ну, ён спакойны чалавек, нічога дрэннага зрабіць не мог. Ты, Манечка, не займайся плёткамі.
-- Дык жа ж гэта праўда, не плётка. Кажуць, гэта ён -- бацька Анюцінага дзіцяці!
-- Што ты кажаш? Я й не ведала, што ён любіць маладых дзяўчат, а яны яго!

### ДЗІЦЯЧАЯ ЛОГІКА

На вакзале сядзіць шмат людзей. Хлопчык год пяці, не зважаючы на просьбы маці і яе пагрозы, усё ходзіць і гаворыць наперамен кожнай сустрэчнай жанчыне: "ты прыгожая", "ты брыдкая". Урэшце адна жанчына пытае: "А чаму я брыдкая?" "А таму, што ты -- слон! А вось яна -- зебра!"

### А БАЧЫЎ ТЫ?

-- Калі я паеду ў вёску да цёткі, дык спытаю свайго дваюраднага брата, ці бачыў ён новы самаход, ці бачыў слана, жырафу, ці ўмее ён танцаваць... Цікава, што ён скажа? -- думаў гараджанін Аркадзь.

Калі прыехаў і спытаў Юрку, ці ён усё гэта бачыў, хлопчык адказаў яму, што ўсё гэта бачыў у тэлевізары, а новая мадэль аўтамашыны ёсць у суседа.

-- А ты бачыў новanарoджанае цялятка, жарабятка, сарну і ваўка?
-- Яшчэ не, -- пачырванеў Аркадзік.

**АЎРОРА**

## СЕНТЭНЦЫІ

Не рвіце валасоў з лысай галавы.

* * *

Паводка з лішняй кроплі вады.

* * *

Трон так высока, што вышэй ёсць толькі зоркі.

* * *

Чарапаха рухаецца так марудна таму, бо думае, як скінуць груз з плячэй.

* * *

Сіла дзяржавы ў энтузіязме адзінкі, энтузіязм адзінкі — у мудрасці дзяржавы.

**БАРЫС РУСКО**

## ТОСТЫ

У адным каралеўстве кароль выдаў указ: „Хто мячом разрубае яблык на грудзі маладой дзяўчыны і не параніць яе, той атрымае яго дачку за жонку і палавіну каралеўства ў прыдачу". Знайшоўся малады хлопец. Дзяўчына была настолькі прыгожай, што ён загледзеўся, не разлічыў удару і разрубаў яблык разам з грудздзю. Яго схапілі і адрубалі галаву.

Знайшоўся другі смяльчак. Пагледзеў ён на далікатны дзявочы твар, на яе стройную фігуру і ўдарыў так, што разрубаў яблык разам з грудздзю. Яго таксама пакаралі смерцю.

Прыйшоў яшчэ адзін юнак, больш спрытны за папярэдніх. Кароль на гэты раз паклаў перад ім сваю дачку, а на яе грудзь — яблык. Юнак узнёс меч і ўдарыў. Але так, што разрубаў яблык, не дакрануўшыся да грудзі каралеўны. Аднак яго таксама схапілі і пасадзілі ў цямніцу. А калі спытаў, за што хочуць яго пакараць, яму адказалі:
— За кампанію!
Дык вып'ем жа за нашу шаноўную кампанію!

* * *

Гарэлка — наш вораг. Але хто сказаў, што мы ворагаў баімося?




*Мал. А. Жыльнікавай*



Сэрцайка! Я перажываю вялікую драму. Мне 16 гадоў. Летам я адпачывала ў лагеры для моладзі. Мае бацькі мусілі доўга ашчаджаць, каб магчы заплаціць тыя амаль тры мільёны за мой побыт там.

Я ехала ў гэты лагер з вялікім хваляваннем, бо надта ж чакала гэтай падзеі і была ўдзячная сваім бацькам. У нашай скромнай матэрыяльнай сітуацыі гэта была для мяне вялікая ўзнагарода. Мне хацелася пабыць на ўлонні прыроды, пакупацца ў возеры і пазагараць, але адначасова і пазнаёміцца з новымі сябрамі і сяброўкамі.

Чакала я з нецярплівасцю моцных уражанняў, ну... і ўсё здарылася так, як я хацела. Дачакалася.

Ужо праз два дні майго побыту я была ўпэўнена, што закахалася ў вельмі сімпатычнага хлопца. Я заўважыла яго адразу, калі прыехала. Адрозніваўся ён ад іншых. Быў добра апрануты, даволі прыгожы і наогул вельмі прыемны ў адносінах да дзяўчат. На наступны дзень, калі было арганізавана вогнішча, ён неспадзявана апынуўся каля мяне. Не ведаю, ці гэта выйшла выпадкова, ці ён так сабе запланаваў. Мы тады пацалаваліся. Ён сядзеў, прытуліўшыся да мяне і абняўшы мяне рукою, а я, анямелая ад шчасця, глядзела ў агонь. Усе спявалі і скакалі, а нам гэта не было патрэбна.

У сваёй палатцы я доўга не магла заснуць. Сяброўка смяялася, што мяне „ўзяло". І сапраўды, яна мела рацыю. Мы з гэтым хлопцам амаль усюды пачалі хадзіць разам: на шпацыры, у лес за грыбамі, у кавярню. Разам гулялі ў валейбол, купаліся, загаралі. Цалаваліся, абдымаліся.

Можа пяць дзён мінула ўжо, калі мы вярталіся а дзесятай гадзіне вечара з кавярні. Неспадзявана мой хлопец павярнуў у кусты і прыцісну мяне да сябе. Пачаў цалаваць мяне. Пацалаваў у грудзі, а тады падняў майку і пацалаваў у жывот. Мне стала няёмка. Я абцягнула майку, а ён пачаў сцягваць з мяне штаны. Я глядзела на яго недаўменна, прытрымліваючы свае джынсы, гаварыла: „Пайшлі ўжо!", але ён мяне не слухаў. Прадаўжаў распранаць, увесь час шэпчучы мілыя словы і абцалоўваючы мяне. Я вырвалася з яго абдымкаў і пабегла напраcткі, праз кустарнік, да дарогі, якая вяла да нашага лагера.

Назаўтра хлопец „не заўважаў" мяне. Я проста не разумела, што дзеецца. Быццам бы не знаў і не ведаў мяне. І чаму? Бо я не зняла перад ім штаноў?! Няўжо каханне канцэнтруецца толькі вакол адной справы — сексу?! Ці не мелі мы на гэта яшчэ крыху часу? Я ж з ім ледзь пазнаёмілася, а ўжо мела страціць сваё дзявоцтва?! Я ведала, што калісь зраблю гэта, але толькі тады, калі буду ўпэўнена, што прыйшло вялікае каханне. І ўжо мне нават здавалася, што яно прыйшло, бо чуллівыя слоўцы „майго" хлопца пачалі рабіць сваё, як ён ад мяне адвярнуўся.

Праз наступных пару дзён я, прыйшоўшы неспадзявана з пляжа, бо пайшоў дождж, застала яго ў ложку з маёй сяброўкай. Прыкра было і мне, і маёй сяброўцы было сорамна. А яму — хоць бы што! Ці ж не аНуча ён?!

**Оля**

Оля! Пэўна, што ануча. Ён, здаецца, з тых хлопцаў, што на вакацыях робяць гэткія рэчы без разбору. Абы была дзяўчына — каб не марнаваць часу. Не варта такім дурыць сабе галаву! Але і сяброўка твая не была ў парадку.

**СЭРЦАЙКА**